# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 17



ДОМНЫ ПРАЦУЮЦЬ. Барыс МАЛКІН

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмесьціць шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе давацца багаты аддзел бібліографіі, хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ○ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІСЬ МАЛАДНЯК“ ○ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | На 6 м-цаў | На 3 м-цы | На 1 м-ц |
|---|---|---|---|
| 3 — | 1 60 | — 90 | — 30 |

ЦАНА ў розьнічным продажу 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25 або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41
І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ **ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

10 ВЕРАСЬНЯ 1930

N 17

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 68.
Тэл. 7-41

Фото Л. МАЗЭЛЕВА.

КАЛЯ АБОРЫ
(Саўгас „БУДЗЁНЫ“).



# ПЕРАМОГА



Нарыс Л. АВАЛАВА. Малюнкі АЗГУРА.

ПРАЗРЫСТАЕ сьветлае раньне. Ня можа быць сьвятлейшага. Ня можа быць больш празрыстага. Асеньні вецер лёгкі і пяшчотны. Белае сонца халоднымі праменьнямі скрыва пранікае ва ўсе вокны, ва ўсе закуткі.

Таварыш Кузьняцоў, упаўнаважаны ў справе хлебанарыхтовак, прыехаў у сяло Падгорнае яшчэ ўчора. Спыніўся ён у Піліпа Ягоравіча Кавалька, ціхага, самага што ні на ёсьць сярэдняга серадначка, які заўсёды ўхіляўся ўсялякіх вясковых разгалоскаў.

Прыехаўшы, таварыш Кузьняцоў доўга і грунтоўна гутарыў з членамі сельсавету, яшчэ даўжэй размаўляў з комсамольцамі, усе яны Кузьняцову спадабаліся і ўпаўнаважаны цьвёрда вырашыў хутка і гладка дайсьці выкананьня пляну хлебанарыхтовак.

Кузьняцоў прачнуўся ў найлепшым настроі. Былі пакровы, прастольнае падгорнаўскае сьвята. Сяляне так упарадкоўвалі свае справы, каб у гэты дзень быць вольнымі і правесьці яго паводле ўстаноўленага здаўна звычаю: папіць колькі ўлезе, папаесьці, ды пагуляць. Кузьняцоў таксама паст навіў выкарыстаць сьвята і склікаць сялян на сход. Ён нават не адмовіўся выпіць лафітнік з самагонкаю, які паднёс яму Кавалёк, бо не жадаў абразіць свайго гаспадара хаця і не ўважаў алькоголю.

Сьняданьне Кузьняцова перапыніў ветлівы стукат у дзьверы.

Упаўнаважаны, спадзяючыся ўбачыць якога-небудзь нецярплівага комсамольца, пасьпешна праглынуў неперажаваны кавалак хлеба і здаволена крыкнуў:

— Заходзь!

У хату ўвайшлі пяць ці шэсьць сялян—Кузьняцоў не запомніў, колькі іх дакладна было, сталых, нявызначнага ўзросту—бываюць такія шэрыя гаспадарыстыя людзі, паводле вонкавага выгляду якім можна даць год ад трыццаці да шасьцідзесяці.

Кузьняцоў узрадаваўся ім і дапіваючы малако, зьдзівіўся пасьпешнасьці Кавалька, які перавялічана ветліва прывітаўся з гасьцямі і зараз-жа выскачыў на вуліцу. Упаўнаважаны сказаў:

— Добры дзень.

— Добры дзень,—адказалі яму сяляне.

Потым упаўнаважаны ўстаў, прывітаўся з кожным селянінам за руку і паглядзеў на іх з чаканьнем.

Адзін з іх, уласна хто—Кузьняцоў так і не запомніў, надзвычайна ветліва, сьціпла і вельмі выразна прагаварыў:

— Мы цябе сёньня спалім.

Кузьняцоў, зразумела, замяшаўся, ня мог адразу зразумець унутраны сэнс таго, што казалася.

— Навошта паліць,—зьдзівіўся ўпаўнаважаны.

— Ды ты-ж ад нас хлеб возьмеш,—дружна скорагаворкаю адказалі сяляне.

— Вазьму,—тонам, які не дапускае супярэчаньняў, падцьвердзіў Кузьняцоў.

— Ну, вось, яно самае...

— Мы цябе спалім,—яшчэ раз памяркоўна заявіў той, што стаяў адзаду цёмнавалосага старога, рыжы, худы і другі селянін.

— Як гэта спалім...—шчыра і бяззлосна працягваў зьдзіўляцца ўпаўнаважаны,—хто вы?

Зноў, тыя што прышлі дружна адказалі ў адзін голас:

— Мы—кулакі.

Кузьняцоў замяшаўся, пачуўшы шчыры, і таму дзіўны, бо ён ня мог сабе ўявіць, каб хто-небудзь сам асьмеліўся назваць сябе кулаком, адказ:

— Як гэта кулакі?

Тыя, што прышлі, нечакана загаварылі, перабіваючы адзін аднаго:

— Эксплацеры мы... Парабкаў трымаем.

— Багатыя, значыцца, і кулакі.

— Дужа проста, кулакі.

— Дужа проста, спалім.

— Спалім, спалім...

Кузьняцоў шчыра зарагатаў вясёлым, бяззлосным, юнацкім сьмехам, хаця яму было ўжо трыццаць шэсьць цяжкіх год і ніякага юнацтва ён, працуючы з пятнаццаці год на заводзе, ніколі ня ведаў.

— Пашлі вы...

Упаўнаважаны махнуў рукой.

Кулакі адзін за адным, пасьпешліва наступаючы адзін аднаму на ногі, маўкліва павылазілі з хаты.

Кавальку, які вярнуўся ў пакой і цікаўна глядзеў на яго Кузьняцоў, усьміхаючыся па-пряыцельску, растлумачыў:

— Не бядуй... Сёньня нас з табою паліць зьбіраюцца.

Потым Кузьняцоў пашоў у сельсавет.

Кавалёк тымчасам усплясяуў рукамі, бо п'яны быў з самага раньня, адразу працьверазіўся і уцёк з хаты.

Сакратар комсамольскай ячэйкі Грамадзін, выслухаўшы апавяданьне Кузьняцова, таксама ўсьміхнуўся і заспакоіў упаўнаважанага:

— Глупства. Гэта, мабыць, Юрчанкады Карэлін прыходзілі. Не зьвяртайце ўвагі. Мяне Карэлін з месяц таму назад забіць абяцаў я. Я і слухаць не захацеў. Яго нарсуд за пагрозы на сто рублёў аштрафаваў. Адразу змоўк. От, халера. Зноў мітусіцца. Не зьвяртайце ўвагі.

Потым і Кузьняцоў, і комсамольцы, і члены сельсавету ўзяліся за работу. Паглядзелі сьпіскі па сельгаспадатку. Праверылі квіткі аб здачы хлеба.

Сход наладзіць не ўдалося. Большасьць падгорнаўцаў былі напіўшыся ўшчэнт з самага раньня. Умовіліся пагаварыць з беднатою заўтра, а потым няйбайна прыступіць да попісу маемасьці злосных нездатчыкаў хлеба.

Разышліся ў вячэрнім паўзмроку.



— Мы цябе спалім,—сказалі кулакі...

Ля дзьвярэй сельсавету Кузьняцова чакаў Кавалёк. Ён моўчкі падаў упаўнаважанаму памятую шаршавую паперу, пакрытую царапінамі цьвёрдым і блядым алоўкам.

„Піліп Ягоравіч. Як табе жадаем добрага, то просім цябе, як вышэйпаказаную асобу, выбрацца з памяшканьня і захапіць сям'ю. Увечары тваю хату будзем паліць разам з упаўнаважаным. Пашкадуй сябе, выбірайся“.

Кузьняцоў прачытаў пісульку, задумаўся, але прыпомніў сдовы Грамадзіна і адказаў:

— Глупства. Не зьвяртайце ўвагі.

Кавалёк адстаў ад Кузьняцова. Кавалёк не знаходзіў патрэбных слоў, ня мог вытлумачыць небясьпеку, захаваную ў атрыманай ім пісульцы, не ставала яму адвагі паскардзіцца на Карэліна, якога ведаў і баяўся і да якога ён лётаў раніцою з просьбаю пашкадаваць яго, Кавалька, гаспадарку і сям'ю.

Вясковая моладзь зьбіралася гуляць недалёка ад канторы крэдытнага таварыства, пад старыя бязьлістаўвыя каравыя вербы.

Папалуднаваўшы, пад вербы прышоў і Грамадзін.

Дзяўчаты і хлопцы жартавалі, сьпявалі, сьмяяліся, пакуль не падышлі п'яныя і злосныя Карэлін, Юрчанка, Дуброўскі, Фатаў—падгорнаўскія кулакі.

Пачалі чапляцца да Грамадзіна.

— Ты актывісты! Ты з нас хлеб, моў скуру, лупіш! Гаспадарку разбурыў нам! Мы табе пакажам...

— Вы лепш скажэце, навошта да ўпаўнаважанага раніцою хадзілі?—адгрызнуўся Грамадзін і адышоў убок.

Кулакі не сунімаліся.

— Падпявала савецкі! Падаткамі задушылі! Хлеб абрабавалі! Чортаў актывісты!—працягвалі яны крычаць, падыходзячы да Грамадзяніна.

Тады сакратар комсамольскай ячэйкі прыгразіў ім.

— Цыц вам, сукіны дзеці! Досыць з вамі пагаварылі. Возьмуць вас заўтра за жабры. Скруцяць.

— Самога цябе, чорта пукатага, скруцяць,—залямантаваў Фатаў.

Карэлін сказаў спакайней:

— Вам актывістым усё роўна па зямлі ня поўзаць.

Гадзінаю пазьней загарэлася памяшканьне крэдытнага таварыства. Ціха-ціха пачаў шамцець асьцярожны агонь. Зашуршэлі сухія дошкі. Звонка, на момант, усхліпвалі і трэскаліся шыбы. Крычалі дзеўкі. Мужыкі кінуліся па пажар. Пабеглі па пажарныя машыны. Выплёсквалі на сьцены вёдры вады.

Ні Дуброўскага, ні Фатава, ні Карэліна, ні Харчэнкі ўблізу не аказалася.

Мужыкі спынялі агонь.

Раптам здалёк пачуўся адзінокі жаночы прарэзлівы крык.

— Пажар! Пажар!

Доўгі ружовы язык полымя высунуўся здалёк на ўскраіне сяла. Мужыкі замяшаліся, замітусіліся. Заставацца тут? Бегчы туды?

Весела, нібы папера, занялася агнём Кавалькова хата.

Кавалёк, які яшчэ ўвечары баязьліва вывеў з двара скаціну, з усёй сваёй сямёю стаяў пасярэдзіне вуліцы і крычаў.

Гол с яго нечакана зьмяніўся і адзінокі, жаночы прарэзлівы крык быў крыкам самога Кавалька.

— Пажар! Пажар!

У замяшаньні, не разумеючы, што кулакі выканалі сваю пагрозу, выбег Кузьняцоў.

— Ня крычы, дурань! Дзе пажарныя машыны? Вады трэба! Народ склікай!

Кузьняцоў пабег і зараз-жа быў зьбіты з ног. Карэлін, Юрчанка, Фатаў, Дуброўскі, іхныя сыны, сваякі схапілі ўпаўнаважанага, насьпех скруцілі яму рукі вяроўкаю і цягнулі да ахопленае полымем Кавалькавае хаты.

Цягнулі і п'яна пакрыквалі:

— У агонь! Забіць! У агонь! Забіць!

Калом расчынілі дзьверы, падбеглі да яе і хутка-хутка ўвапхнулі ў сярэдзіну хаты Кузьняцова, які біўся ў кулацкіх руках.

Адчаяна трэснула і павалілася ўніз кроква, што трымала страху.

Па вуліцы беглі людзі. Перад усімі сьпяшаўся Грамадзін. Наперарэз комсамольцам кінуўся Карэлін, узмахнуў віламі, падскочыў да Грамадзіна.

— Бі! Палі! Кідай у агонь, чорта пукатага!

Завішчэлі п'яныя.

Цесным колам абкружылі кулакі сакратара комсамольскае ячэйкі, адціснулі да агня. Штурханулі!..

— Бі! Рві на кавалкі!

Карэлін клікаў на дапамогу:

— Кідай комуністых у агонь! Будуць яны кулакоў знаходзіць.

Грамадзіна зьмялі і жорстка і павольна зьбівалі.

Скавыталі п'яныя.

Кулакі нікога не падпушчалі да хаты.

Комсамольцы біліся каламі.

Сяляне, якія бяднейшыя, дапамагалі комсамольцам.

Раптам пачуўся зноў жаночы Кавалькоў візгат, ён нібы падскочыў, выхапіў з рук Карэліна вілы і ўдарыў яго зубамі па галаве.



...Сяляне, якія бяднейшыя, дапамагалі комсамольцам.

Карэлін паваліўся.

Кулакі адступілі.

Напоўабгарэлага Кузьняцова выцягнулі з хаты.

Абпалены, пачарнелы твар распух. З напалову закрытага вока цякла мутная белая жыжка. Здавалася, што ўпаўнаважаны ўсьміхаецца.

І—цішыня...

Трагічна скрыпяць калёсы. Кузьняцова і Грамадзіна вязуць у больніцу. Калёсы паехалі. Згубіўся ўначы скрып. У вёсцы аніводнага голасу. Цішыня.

* * *

Падгорнае кепска спала ў гэту ноч. Перашэптываліся мужчыны з жонкамі, заходзілі адзін да аднаго суседзі, у сельсавеце сабраліся, нібы выпадкова, усе комсамольцы,—гутарылі аб тым, што адбылося.

Сьвітаньне. Суседзі Зьвераў і Мурашоў, сераднякі, разрываючы спакойную балонку малочнага туману, выехалі з двароў.

Перад полуднем яны прынесьлі ў камітэт садзейнічаньня выданы эліватарам квіток.

— Ад нас трыццаць цэнтнэраў належыць,—сказаў Зьвераў,—дык мы восемдзесят сем аддалі. Увесь збытак. Начыста.

— А падпісацца больш як на трыццаць не хацеў,—упікнуў яго старшыня сельсавету Сёмін.

— Што-ж, што не хацеў,—перапыніў сакратара Зьвераў.

— Мо' я ўчора і сапраўды не хацеў. Пераканаўся сёньня і здаў. Не маленькі, бачу, трэба дапамагчы дзяржаве.

— Дык чаго-ж ты гэта,—зьдзіўляючыся перамене, якая адбылася ў мужыку, запытаўся Сёмін.

— А таго!—злосна адрэзаў Зьвераў,—таго, што ўпаўнаважанага няма. Добры быў чалавек, вось я яму і хачу падсабіць.

У школе і сельсавеце адбываліся сходы падгорнаўскіх беднякоў і серадніякоў. Памочнік акруговага прокурора гутарыў з сялянамі, што сабраліся ў школе.

— Што вы самі думаеце аб тым, што адбылося?—запытаўся ён падгорнаўцаў.

— Ведама, нічога ня думаем... п'яныя былі ўсе,—паспрабаваў быў адказаць за ўсіх Цімка—Карэлінаў сын.

— Маўчы,—сурова перапыніў яго Мурашоў.—П'яныя былі, а справу сваю рабілі...

— Рабілі, рабілі...—замітусіўся Цімка.—Ніхто і ня памятуе, што рабілі... Усе бяз памяці былі...



Напалову абгарэлага Кузьняцова выцягнулі з хаты.

Але Мурашоў не даваў яму перапынку.

— Так, кажуць, бяз памяці былі... Што рабілі ня памятуеш?

— Ня памятую!

— І што казалі ня памятуеш?

— А што?

— А тое!

— Ды ты кажы, не баюся я,—мітусіўся Цімка.

— І скажу,—сурова заявіў Мурашоў. Я дык памятаю, як ты біў Грамадзіна і крычаў: „Вось табе актыў, вось табе колектыў, вось табе нашы сьвірны".

— Ну, ну...

Цімка замяшаўся.

Памочнік прокурора нахмурыўся, рэзка запытаўся ў Цімаха Карэліна:

— Ці казаў ты гэта?

Цімка ўпарта пакачаў галавой

— Ня памятую.

— Як гэта ня памятуеш?—закрычэлі жанчыны, што прысутнічалі на сходзе.

— Хто памятае?—зьвярнуўся памочнік пракурора ўжо да ўсіх прысутных.

— Ды я!

— І я!

— Я...

Сьведак знайшлося шмат.

— Мабыць, прыдзецца яго арыштаваць,—задумліва, нібы зьвяртаючыся да самога сябе, праказаў памочнік прокурора.

— Няўжо-ж не арыштоўваць,—падтрымала памоцніка прокурора ўдава Дзешавых.

Зноў загаманілі мужыкі пра хлеб, пра савецкую ўладу, пра колгас, пра кулакоў, пра трактар. Гутарка была доўгая і грунтоўная. Пастановы ні кае не зрабілі Аднак, перад зачыненьнем сходу памоцнік прокурора запытаўся:

— Дык як-жа з вашымі... з кулаччом з гэтым, як быць?

Мужыкі памаўчалі.

Нясьмела крыкнуў Зьвераў:

— Ды таксама.

— Як гэта?

— Дужа проста.

— Гэта ён правільна,—падтрымаў суседа Мурашоў.—Толькі для нас кулакі больш шкодныя, як мы для іх.

Пасьля Мурашова загаварылі і астатнія. Загаварылі і вынесьлі пастанову:

„... Паколькі перайначыць ворагаў нельга, вымагаць поўнага зьнішчэньня кулацтва..."

Вёска пачала выконваць плян хлебанарыхтовак. 63 проц. Падгорнае пабілася на раёны. 72 проц. Пачалося спаборніцтва. 88 проц. Раён спрачаўся з раёнам. 91 проц. Сусед абганяў суседа. 96 проц.

Завіднеўся канец.

У акругу прыехалі прадстаўнікі асобнае Далёка-Ўсходняе арміі.

Па ўсіх вёсках быў разасланы зварот байцоў Далёка-Ўсходняе.

„Знаходзячыся на далёкіх усходніх межах нашага савецкага Саюзу і ахоўваючы краіну, якая будуе соцыялізм, ад узброенае разьведкі капіталістых усяго сьвету,—мы шлем братэрскае прывітаньне працоўным акругі.

... хлебанарыхтоўкі зьяўляюцца адным з найважнейшых вучасткаў на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, а тут дык у нас ня ўсё добра, нашы ворагі, кулакі, як і раней, шкодзяць хлебанарыхтоўкам. Яны, карыстаючыся недастатковай актыўнасьцю бядняцкіх і серадняцкіх мас, зрываюць нашу работу, разумеючы тое, што пасьпяховасьць выкананьня хлебанарыхтовак—сьмерць кулаку. Кулакі, праз лісты да нас, імкнуцца пасеяць і сярод нас сумненьні ў правільнасьці мерапрыемстваў савецкае ўлады, але атрымліваюць належны адпор.

... зьвяртаемся да вас з просьбаю даць жорсткі адпор кулаку...

Зварот ваякаў Далёка-Ўсходняе быў разасланы па ўсіх вёсках.

Прачыталі зварот і на сходзе падгорнаўскіх сялянак. Першая адклікнулася ўдава Дзешавых.

— Бабы! То-ж гэта ў мяне ў Кітаі сын. Бабы! Пашлем дзяцюком падарунак?

Звычайным раньнем падобным на тысячы мутных, шэрых, халодных раніц падгорнаўскія бабы на трыццаці дзьвёх фурманках вывезьлі на станцыю дзьвесьце шэсьдзесят пудоў бульбы ў падарунак Далёка-Ўсходняй.

Два ваякі прыехалі ў Падгорнае падзякаваць жанчынам.

Да гэтага-ж часу прышоў ліст ад Грамадзіна, які ўжо пачаў папраўляцца.

Ліст прывёз член суседняга колгасу „Новая Праца".

Байцы раілі сялянам злучыцца ў колгас.

Колгасьнік раіў сялянам злучыцца ў колгас.

Удава Дзешавых пачухала нос, што пачырванеў ад непагод і ад пажылага ўзросту і зьвярнулася да суседак:

— Бабы, здужаем?

Зьвераў моўчкі падышоў да чырвонаармейцаў, моўчкі і невядома навошта зьняў шапку і моўчкі пацікнуў ім рукі

Мурашоў выцягнуў галаву, уважліва глянуў на свайго суседа і прыяцеля Зьверава, усьміхнуўся і адказаў удаве Дзешавых:

— Ня бойся, старая, здужаем.

У колгас не хацеў уваходзіць адзін толькі Кавалёк. Страціўшы хату, ён бязупынна марыў пра пабудову новае... Пры ўваходзе-ж у колгас новая ўласная хата ўплывала ў далёкае мінулае. Ён сердаваў на вяскоўцаў, якія згадзіліся абагуліць маемасьць. Ён зайздросьціў мужыком, што на некалькі дзён даўжэй яго ўладалі ўласнымі хатамі.

На Кавалька не зьвярнулі ўвагі.

Узьняўся тлум. Ён ня быў падобны да звычайнага вясковага гармідару. Галасы сялян гучэлі дружна і суладна.

— Колгас?

— Колгас...

— Колгас.

— Колгас!

„... сяляне вёскі Падгорнае аграмаджваюць зямлю, будоўлю, сельскагаспадарчы інвэнтар, буйную жывёлу і пачынаюць весьці колектыўную гаспадарку. . Колектыўная гаспадарка імя „Асобнае Далёка-Ўсходняе арміі..."



**... У акругу прыехалі прадстаўнікі асобнае Далёка-Ўсходняе арміі...**

# НА БАБРУЙСКІМ КОМБІНАЦЕ.



ФОТО

**Бабруйскі комбінат** па сваёй велічыні першы ў Эўропе.

Заходня-эўропэйскія капіталістычныя краіны ня маюць ніводнага лесаапроцоўчага прадпрыемства, якое-б магло паспрачацца з волатам, пабудованым пролетарскаю дзяржаваю ў Бабруйску.

**Бабруйскі комбінат** пасгаўляе на соцыялістычную будоўлю вялізную колькасьць лесаматэрыялу.

Вялізарны размах вытворчасьці комбінату вымагае мэханізацыі ўсіх процэсаў вытворчасьці.

**Бабруйскі комбінат** абсталяваны па апошнім слове тэхнікі.

На нашым здымку: мэханізаваная падача матэрыялаў на лесавозе.

# ЗА ПАДВЫШАНЫ ПУЛЬС МАШЫНЫ

Нарыс Б. КЛІМЧУКА



Ударнік за працаю.

Найбольш дакладная з навук—матэматыка, падпаўшы пад бальшавіцка-ленінскі аналіз траціць глебу і ўстойлівасьць пад сваімі нагамі. Бальшавікі на практыцы давялі, што агульна прынятае і безапэляцыйнае разуменьне, што будынак вось у столькі сотняў тысяч кубічных мэтраў роўны аднаму году,—ня ёсьць нешта адвечнае і канчатковае. Тое што капіталістыя будуюць за год бальшавікі будуюць за 8 месяцаў, а тое, што нашыя ўласныя, бальшавіцкія плянавыя органы вызначаюць на пяць год, памяншаецца да 4-х год, калі шматтысячныя рабочыя масы, узброеныя бальшавіцкім энтузыязмам, бяруцца за практычнае ажыцьцяўленьне гэтых плянаў.

Мы будуем соцыялізм сіламі 150 мільённага народу, раскінутага па $^1/_6$ частцы земнае кулі. Мы вядзем вялікае змаганьне і соцыялістычнае будаўніцтва ў адсталай краіне з слабай разгорнутай прамысловасьцю, з прымітыўнымі формамі сельскай гаспадаркі і з малай культурнасьцю насельніцтва. Навокал нас магутныя капіталістычныя дзяржавы, якія ўладаюць вялізарным багацьцем, высокай тэхнікай і высокай культурай. Сілы замежнага капіталізму і рэшткі капіталізму ўнутры краіны заўзята супраціўляюцца нашаму будаўніцтву, імкнуцца сарваць пераможны марш соцыялізму ў нашай краіне.

Высунуты і народжаны ў масах пролетарыяту лёзунг—пяцігодка ў 4 гады, можа быць пасьпяхова рэалізаваны толькі пры ўмове, што ўся рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі комуністычнае возьмецца за яго ажыцьцяўленьне, калі рабочая кляса нікому не дазволіць быць у хвасьце, цягнуцца ззаду, адставаць ад ухваленых звыш амэрыканскіх, бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця.

Хутка канчаецца другі год пяцігодкі. Другі год пяцігодкі — год буйнейшых дасягненьняў у соцыялістычнай індустрыі. Буйная соцыялістычная прамысловасьць за 10 месяцаў павялічыла сваю агуловую продукцыю на 27%, паказаўшы рэкордныя тэмпы росту за ўвесь рэконструкцыйны пэрыод. Цяжкая індустрыя, гэтая аснова соцыялізму, за той-жа пэрыод павялічыла памеры сваёй вытворчасьці на 39,5 проц. Аб'ём капітальнага будаўніцтва за 10 месяцаў вызначаецца ў 2,5 мільярды рублёў.

Але гэтыя посьпехі і дасягненьні не павінны нам перашкаджаць бачыць той сур'ёзны прарыў, які выявіўся ў ходзе выкананьня прамысловасьцю вызначанага пляну.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) зьвярнуўся да ўсіх партыйных, профэсыянальных і гаспадарчых організацый, да ўсяе рабочае клясы з адозвай, якая папераджае, што прарывы мінулага гаспадарчага году ставяць пад удар праграму 3-га году пяцігодкі.

„3-і год пяцігодкі азначае новы вялізарны крок у справе індустрыялізацыі СССР. Толькі адзін прырост продукцыі за 1930-31 год будзе роўны усёй даваеннай прамысловай вытворчасьці. У 3-м годзе пяцігодкі побач са скончанымі і ўжо паступаючымі ў эксплёатацыю Сталінградскім трактарным заводам, Растоўскім заводам сельгасмашынабудаўніцтва і іншымі новымі заводамі, трэба забясьпечыць разгортваньне на поўны ход будаўніцтва такіх волатаў, як Магнітабуд, на пабудову якога павінна быць затрачана за адзін год больш 200.000.000 р., Кузьнецкабуд, Ніжагародзкі аўтазавод, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя заводы, Уральскі волат цяжкога машынабудаўніцтва, першая чарга буйнейшых хэмічных комбінатаў—Бярэзьнікаўскага і Бобрыкскага, Саратаўскага комбайнага завода і г. д. Пераважная большасьць гэтых заводаў, па патужнасьці сваёй перавышаючых усе, якія краіна мела да гэтага часу ў галіне мэталюргіі, хэміі і машынабудаўніцтва, павінна быць пушчана ў ход на працягу трэцяга году пяцігодкі, адны поўнасьцю, другія ў першую чаргу.

Апроч таго, у будучым годзе пачынаецца будаўніцтва такіх новых заводаў, як Ніжня-Тагільскі і Морыупальскі мэталюргічныя і Днепракомбінат у складзе цэлага раду буйнейшых новых заводаў. У 1930-31 годзе мы павінны дамагчыся першых буйных вынікаў у ажыцьцяўленьні дырэктывы XVI зьезду аб утварэньні новай вугольнай мэталюргічнай базы ў СССР—Урала-Кузьнецкага комбінату.

Програмы будучага году вызначаюць наступныя рашаючыя лічбы: $7^1/_2$ млн. чыгуну, 74,5 млн. вугалю, на 2,5 млрд. рублёў новых машын, апроч таго, на 845 млн. рублёў сельскагаспадарчых машын, 745 тыс. конскіх сіл новых трактараў.

Посьпехі ў разьвіцьці цяжкай індустрыі і рост сельскагаспадарчай сыравіннай базы (пашырэньне засеўных плошчаў, падвышаны ўраджай бавоўны, буракоў і раду іншых тэхнічных культур) забясьпечваюць значна больш высокі, чым у мінулыя гады, тэмп росту лёгкай прамысловасьці. Побач з правядзеньнем іншых мерапрыемстваў, гэта ўтварае ўмовы для палепшаньня забясьпечаньня рэчамі шырокага ўжываньня і для памякчэньня таварнага голаду.

Ажыцьцяўленьне гэтай вытворчай програмы запатрабуе рашучага палепшаньня якасьці ўсёй гаспадарчай работы. Усе якасныя паказальнікі работы прамысловасьці і ў першую чаргу



**Дом коопэрацыі ў Харкаве (супроць Дома Дзяржпрамысловасьці) будуецца ўдарнымі тэмпамі.**

паказальнікі сабекошту і прадукцыйнасьці працы павінны быць значна падвышаны ў працягу году, павінны выконвацца з бязумоўнай дакладнасьцю. Бяз гэтага ня можа быць забясьпечана тое разгортваньне вытворчасьці і той вялізарны плян капітальных работ, якія вызначаны для 1930-31 году...

Выкананьне ўсёй гэтай вялізарнай гаспадарчай програмы магчыма толькі пры актыўнай і пры гэтым неадкладнай, мобілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы, усіх партыйных організацый, усіх профсаюзаў, усяго комсамолу і ўсіх, без выключэньне, гаспадарчых органаў. Неразуменьне гэтага — ёсьць неразуменьня асноўнага бальшавіцкага абавязку ў справе забясьпечаньне посьпехаў будаўніцтва соцыялізму, яно зьяўляецца сапраўдным злачынствам перад партыяй з боку перш за ўсё кіраўнікоў гэтых організацый...

Толькі неадкладным разгортваньнем работы па падрыхтоўцы выкананьня вытворчай програмы прамысловасьці будучага году можна забясьпечыць ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця індустрыі, прынятых XVI зьездам партыі.

Найважнейшай умовай выкананьня прамфінпляну будучага году зьяўляецца выкананьне прамфінпляну за 1929-30 год.

Бальшавіцкая падрыхтоўка да выкананьня грандыёзнай вытворчай програмы 3-га году пяцігодкі заключаецца ў бязумоўным выкананьні прамфінпляну бягучага году.

Адозва ЦК заклікае да штурму перашкод, да ліквідацыі прарываў, да бальшавіцкай падрыхтоўкі сустрэчы надыходзячага 3 га году пяцігодкі.

Гулам магутнага прыбою ўзварушылі гэтыя словы грудзі пролетарыяў на заводах-волатах Ленінграду, Масквы, Растову, Сталінграду, хваляй разьліліся па прадпрыемствах Украіны, Беларусі, РСФСР. Загартаваны ў баёх за соцыялізм пролетарыят адзінай штурмуючай колёнай адказаў на заклік партыі. А штурмаваць ёсьць што. Прарывы даволі вялікія.

„Прырост прамысловай продукцыі за 10 месяцаў на 27 проц. сьведчыць аб рэзкім адставаньні ад устаноўленага плянам прыросту ў 32 проц. Недавыконваецца плян ня толькі па лёгкай індустрыі, што ў гэтым годзе ў пэўнай меры тлумачыцца недахопам сыравіны, але, што асабліва важна, значна недавыконваецца таксама вытворчая прграма па цяжкай індустрыі... Відавочна нездавальняючы таксама ход капітальнага будаўніцтва. Плян капітальнага будаўніцтва за першыя 3 кварталы выкананы менш, як напалову. Гэтыя недапушчальныя зьявішчы ў капітальным будаўніцтве ўтвараюць пагрозу прынятым тэмпам прамысловага разьвіцьця, пагрозу выкананьню пяцігодкі ў 4 гады".

І ад пэрыфэрыі да цэнтру, ад варштату да заводзкага складу, ад заводаў і фабрык—на заклік партыі вырасла сустрэчная хваля гатоўнасьці, выказаная не на словах, а ў рэальным ўзьняме якасных і колькасных паказальнікаў, у тонах, у кубамэтрах. Гэтая хваля нарадзіла падвышаны пульс машын, новае напруджаньне іх, магутны ўздым энтузіязму ля рабочых варштатаў. Заклік бальшавіцкай партыі конкрэтна адлюстраваўся ў баявым адказе ўдарных батальёнаў электразаводу: скончыць другі год пяцігодкі не пазьней 25 верасьня, каб рэшту дзён працаваць авансам у фонд 3 году.

Пачын электразаводу быў падхоплены шырокімі масамі рабочых, якія ў магутным соцыялістычным спаборніцтве імкнуцца выперадзіць адзін аднаго ў найбольш хуткім выкананьні програмы другога году.

„Праўда" штодзень друкуе падрахунак дзесяткаў заводаў якія ўжо выканалі сваю програму. Ужо на дзесятае верасьня выканаў гадовую програму аўтазавод „АМО", выканаў програму машынабудаўнічы завод імя Карла Маркса, тормазны завод фабрыкі Москвашвею, Москожы ды інш. 11 верасьня выканала гадовую програму фабрыка „Профінтэрн" у Барысаве; яшчэ 1 верасьня выканаў програму: „Палесдрук" у Гомелі.

Датэрміновае выкананьне програмы ператвараецца ў „справу гонару, справу славы, справу адвагі і геройства". Рабочыя фабрыкі Профінтэрн рапортуюць:

*„Адозвы ЦК УсеКП(б) і ЦК КПБ, а таксама пастанова ЎсеЦСПС прапрацавана на папяровай фабрыцы „Профінтэрн" (Нова-Барысаў) па групах і зьменах. Рабочыя, служачыя і інжынэрна-тэхнічныя работнікі горача адгукнуліся на заклік партыі і ліквідавалі прарыў.*

*Гадавы плян выкананы поўнасьцю 2 верасьня.*

*Рабочыя на ўсіх рабочых сходах аднагалосна пастанавілі заставацца на фабрыцы да канца пяцігодкі. 22 лепшыя ўдарнікі падалі заявы аб тым, каб іх залічылі ў рады партыі.*

*Сустрэчным прамфінплянам рабочыя павялічылі выпрацоўку паперы на трэці год пяцігодкі на 3,8 проц. параўнальна з 1929-30 г.,—програма 3-га году пяцігодкі павялічана на 38.8 проц. Продукцыйнасьць параўнальна з 1929-30 г. павялічваецца на 219 проц. Гарантыяй выкананьня новай програмы зьяўляецца значная колькасьць прапаноў, якія паступілі ад рабочых".*

Ударнікі „Палесдруку" рапортуюць:

*„Наша абяцаньне XVI зьезду партыі мы выканалі. Прарыў 1-га кварталу ў 18 проц. мы ліквідавалі. Мы перайшлі на 7-гадзінны рабочы дзень. Дзякуючы геройчнаму змаганьню за прамфінплян, першы месяц 7-гадзіннай работы дае выкананьне праграмы на 135,6 проц. Да 1-га верасьня—на працягу 11 месяцаў мы выканалі ўвесь гадавы прамфінплян. 12-ы месяц нашай напруджанай работы мы аддаем у падарунак 3 году пяцігодкі.*

*У адказ на высунуты адміністрацыяй плян павялічэньня продукцыі на 61 проц., пры росьце рабочай сілы на 32 проц., росту продукцыйнасьці працы на 32 проц. і зьніжэньне сабекошту на 11,1 проц., мы высоўваем наш Сустрэчны:*

*наборшчыкі даюць яшчэ 4 млн. літараў у год, друкары дадаюць яшчэ 2 млн. 900 тысяч адбіткаў, літографы павялічваюць програму на 17 проц.*

*Па-ленінску выканаем баявы загад ЦК УсеКП(б)".*



**Ударнікі-кацельшчыкі на заводзе імя Шаўчэнкі робяць вагонэткі для донбаскіх капальняў.**



**Макет вялізарнага новага заводу фэросплаваў у Чалябінскім раёне, побач з Чогрэсам, які мае будавацца ўдарным парадкам.**

Гомельскі завод „Пролетары“ выканаў прамфінплян на 1-е верасьня на 97,2 проц. гадавога заданьня, фабрыка „Комінтэрн“ за 11 месяцаў выканала прамфінплян на 105 проц.

Равуць гудкі трывогі.

Трывожнымі гудкамі пераклікаюцца фабрыкі і заводы. Гудкі трывогі за посьпех, за соцыялістычную перамогу. На позыцыі мацнейшы падтрымлівае слабейшага. Соцыялістычнае будаўніцтва—фронт, баявы фронт з ударнымі і штурмуючымі батальёнамі, моторызаванымі ротамі і атрадамі. Сотні і тысячы ўдарнікаў кідаюцца ў прарывы. Дужэйшыя фабрычныя атрады працягваюць тавараскую руку дапамогі слабейшым атрадам, прапануюць ім грамадзкі буксыр. Гэтая лепшая форма пролетарскай дапамогі, дзе адзін дапамагае аднаму выйсьці на перадавую агнявую лінію змаганьня за соцыялізм.

Вось бліскучы прыклад пролетарскай дапамогі. Бліскучы ўзор таго, як перарадзіліся інтарэсы рабочае клясы за час пролетарскае дыктатуры. Рабочыя клапоцяцца пра інтарэсы ня толькі сваёй уласнай фабрыкі, але пра становішча на ўсіх фабрыках, на ўсіх заводах. Ударнікі заводу „Пролетары“ зьвярнуліся да ўдарнікаў заводу імя Ланцуцкага з наступным лістом:

*„Рабочы колектыў заводу „Пролетары“, дзякуючы правільнай лініі партыі і адданасьці рабочых справе соцыялістычнага будаўніцва на працягу ўсяго 1929-30 г. паказаў баявыя тэмпы работы, выпусьціўшы продукцыі на 75 проц. больш, чым у мінулым годзе.*

*Абгаварэньне прамфінпляну ўзьняло палітычную актыўнасьць рабочых. Лепшыя рабочыя ўступілі ў партыю. Рабочы колектыў высунуў свой сустрэчны прамфінплян, які прадугледжвае рост прадукцыі замест 4,4 млн. руб. на 4 млн. 530 тысяч руб. Ініцыятарамі сустрэчнага прамфінпляну зьяўляюцца скразныя брыгады, якія на справе паказалі сваё ўменьне організаваць работу. Раней растворамяшалка каштавала 223 руб., а цячер—50 руб.*

*Рабочыя заводу „Пролетары“, даведаўшыся з газэт аб прарыве ў вагонным цэху вашага заводу, парашылі аказаць вам тавараскую дапамогу па прапрацоўцы сустрэчнага прамфінпляну і організацыі скразных брыгад.*

*Для дапамогі пасылаем вам лепшых сваіх ударнікаў*“.

Узораў прыкладнай работы можна было прывесьці шмат. Гонар пераможцы—быць у авангардзе. За гэты гонар змагаюцца тысячы фабрык і заводаў, але не з аднолькавым тэмпам, не з аднолькавай энэргіяй усе рабочыя ўзяліся ліквідаваць прарывы.

Фанерная фабрыка „Вэзуві“ за жнівень месяц выканала свой прамфінплян на 79 проц.

Высачанская ільнапрадзільная фабрыка імя К. Маркса выканала жнівеньскі плян толькі на 70 проц.

Прамысловасьць БССР за 10 месяцаў работы недавыканала свой плян на 5,4 проц. або на 12 млн. руб. Замест прадугледжанага росту продукцыйнасьці па прамысловасьці БССР на 35 проц. мы маем рост усяго на 24 проц. Замест прадугледжанага зьніжэньня сабекошту на 11 проц. мы маем зьніжэньне ўсяго на 7,6 проц.

Гэтыя факты сыгналізуюць. Дарагі кожны дзень, кожная гадзіна, кожная мінута. Баявое заданьне ЦК партыі аб ліквідацыі прорываў, аб сустрэчы 3-га году пяцігодкі па-бальшавіцку—можа быць выканана і павінна быць выканана толькі баявымі тэмпамі.

Калі на фронце зрабіўся прарыў, камандуючы павінен так перабудаваць свой плян, каб усімі сіламі разьбіць ворага, які прарваўся ў тыл.

На фронце змаганьня за соцыялізм—прарыў. Усе сілы на рашаючыя вучасткі!

Бальшавіцкіх тэмпаў не збаўляць! Энтузіязм рабочых Савецкага Саюзу, энтузіязм рабочых Савецкай Беларусі павінен нарадзіць і народзіць героіку змаганьня і перамог, гэты энтузіязм расчысьціць шлях для пераможнага змаганьня за выкананьне програмы трэцяга году пяцігодкі.

На вогненны заклік комуністычнай партыі магутным гулам грымяць адказныя слова пролетарыяту. Гэтае слова ператвараецца ў пераможную справу.

Героічная праца мільёнаў пракладвае магутны шлях да соцыялізму.



Ударная брыгада вагонных майстэрняў ст. Менск—таварная за працаю.

# ЛІКВІДУЕМ ПРАРЫВЫ

Фото МАЗЕЛЕВА.

Ударная брыгада імя дзесяцігодзьдзя профінтэрну за працай (вагонныя майстэрні Менскага чыгуначнага вузла).

# ТАМ, ДЗЕ ПАНУЕ КАПІТАЛ

## П'ЕР ДЗЮКЛО

*(Ліст з Парыжу)*

У самым цэнтры парыскага рабочага прадмесьця Біланкурт, пахмураю дзўкаю аграмадзінаю падымаюцца карпусы заводаў Рэпольда—„Сэньёра Біланкурта", як завуць тут гэтага аднаго з аўтомобільных каралёў сучаснае Францыі.

А на другім канцы Парыжу, на набярэжнай Жавель пануе другі ўсясільны пан сучаснае Францыі—францускі Форд і архімільянэр Сітроен. Той самы Сітроен, які ў 1923 г. забясьпечваў шматлікія і дарагія экспэдыцыі праз Сахару ў глыбіню Афрыкі, які будуе грандыёзныя пляны раскошных готэляў у Сахарскіх пяскох і на чыгунках, што праразаюць удоўж і ўпоперак пяскі і лясы, дзе і да гэтага часу яшчэ ня ступала нага белага чалавека. Той самы Сітроен, які ў пошуках усё новых і новых прыбыткаў няшчадна эксплёатуе рабочую клясу і які... у гэтых адносінах нічым ня розьніцца ад іншых капіталістых і капіталісьцікаў старага і новага сьвету.

Вось сёньня і пойдзем мы з вамі да Рэпольда і Сітроена. Мы пастараемся зірнуць у сярэдзіну іхных аграмадных заводаў, пастараемся азнаёміцца са становішчам рабочых і сыстэмаю, што „ахоўвае" гэтых рабочых ад „комуністычнае заразы".

Пойдзем.

Пропуск на завод сёньня ў нашых руках.

* * *

Але перш за ўсё крыху гісторыі. Гісторыі пра завод і пра багацьці біланкурцкага сэньёра Рэпольда. З такім-жа посьпехам можна было-б расказаць і пра Сітроена, ці пра іншага фінансавага магната. Розьніца была-б невялікая, бо ўсе багацьці гэтых людзей маюць сваю крыніцу—цярпеньне і працу мільёнаў, бо іхныя мільярды франкаў, даляраў і марак усе пахнуць потам ды крывёю рабочых мас.

Дык вось завод Рэпольда ў Біланкурце пачаў разьвівацца яшчэ доўга да імпэрыялістычнае вайны, яшчэ ў пачатку дваццатага стагодзьдзя. Ужо тады 4.000 рабочых і дзень і ноч працавалі на тое, каб Рэпольдавы рахункі ў банках расьлі ня днямі, а гадзінамі, каб багацьці францускага магната дасягалі астраномічных лічбаў—мільёнаў і мільёнаў залатых франкаў.

Але гэтага было мала Біланкурцкаму сэньёру. І вось у чэрвені месяцы 1912 году заводчык пасылае ў Амэрыку (у ПАЗШ) сваіх двух лепшых інжынэраў з загадам падрабязна вывучыць пастаноўку справы эксплёатацыі рабочых у краіне даляраў, з загадам вывучыць падрабязна сыстэму Тэйлора, што тады толькі яшчэ ўводзілася на амэрыканскіх заводах—організацыю навуковае эксплёатацыі рабочае працы, сыстэму выпампо ваньня з рабочага ўсіх ягоных сіл, усіх ягоных здольнасьцяй.

Што такое тэйлорызм і блізкі яму фордзізм ужо ўсім досыць вядома. Гэта такая організацыя працы (у Форда, амэрыканскага „караля аўтомобіляў"—конвэерная сыстэма), калі кожны рух рабочага загадзя строга разьлічаны, калі ніводзін рух не прападае задарма, калі кожны гэты рух дае карысьць вытворчасьці. Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, калі сама рабочая кляса стаіць ва ўладзе, калі яна сваёю ўласнаю рукою будуе соцыялістычны сьвет—ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту правільна ўжыты тэйлорызм ды фордзізм можна толькі вітаць. Ён падвышае продукцыйнасьць працы, ён падвышае і апрошчвае працу рабочага, падмяняючы частку працы гэтага рабочага машынаю.

Але гэта толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту. Пры капіталізьме-ж тэйлорызм ды фордзізм яшчэ больш закабаляе рабочую клясу, па-першае, таму, што пры гэтых сыстэмах праца рабочага няшчадна контролюецца з боку капіталістага, і, па-другое, што (асабліва ўжываючы сыстэму фордзізму) ў даным выпадку машына падмяняе сабою частку працы многіх людзей, а ад таго рост безрабоціцы з усімі цяжкімі ў капіталістычных краінах вынікамі для рабочае клясы, ад таго яшчэ большая залежнасьць рабочага ад капіталістага, пры штодзённай пагрозе гэтае безрабоціцы.

Вось чаму „штыхамі" сустрэлі рабочыя спробу Рэпольда ў сьнежні 1912 г. ужыць сыстэму Тэйлора на заводах Біланкурта. Два дні цягнулася адзінадушная забастоўка чатырох тысяч рабочых пад кіраўніцтвам цэхавых забастовачных камітэтаў. Рэпольд на гэты раз адступіўся, але толькі на тое, каб праз тры месяцы зноў зрабіць спробу. Тады зноў была абвешчана забастоўка, якая цягнулася ўжо шэсьць тыдняў, якая мела ўжо адчыненую барацьбу рабочых з паліцэйскімі, з шпэгамі, з штрэйкбрэхерамі, са здраднікамі. Касы ўзаемадапамогі (яны былі тады ў руках капіталістых) адмаўляліся памагаць баставіком, голад і холад у гэтыя тыдні панаваў у дамох рэволюцыйных рабочых. І толькі рэволюцыйныя організацыі Францыі—тыя, што ў 1920 г. з'організаваліся ў комуністычную партыю, дапамагалі баставіком, дапамагалі як маглі і чым маглі.

Рабочыя і гэты раз вышлі пераможцамі з барацьбы. Сыстэма Тэйлора ў 1913 г. ня была ўжыта на заводах біланкурцкага сэньёра.[1]) Але за тое шмат каго недалічыліся ў сваіх шэрагах баставікі. Рэпольд бязьлітасна праганяў з сваіх заводаў усіх кіраўнікоў забастовак, усіх рэволюцыйна настроеных рабочых, і што паказалі сябе актыўна ў рэволюцыйнай барацьбе.

* * *

Крывавая імпэрыялістычная бойня 1914—1918 г., што дала так многа мучэньняў мільённым масам працоўных, пайшла на карысьць Рэпольдам, Сітроенам, Мішэленам (буйнейшы фабрыкант аўтомобільных шын у Францыі) і да іх падобных. Шматмільённыя пастаўкі аўтомобіляў, аэропланаў і зброі для арміі у шмат разоў павялічылі іхныя і без таго ўжо аграмадныя капіталы. А пасьля вайны, у эпоху падзеньня францускае валюты, дзякуючы дзяржаўным крэдытам і спэкуляцыі, яны здолелі ў шмат разоў пашырыць сваю вытворчасьць, адбудаваць грандыёзныя сваімі памерамі карпусы фабрык і заводаў, закабаліць на гэтых заводах не адну лішнюю тысячу гарапашнікаў францужаў ды чужаземцаў: палякаў, італійцаў, расійцаў, гішпанцаў, што прывозіліся па кабальных контрактах у межы францускае „дэмократычнае" рэспублікі.



Цяпер Рэпольд, а разам з ім і іншыя капіталістыя Францыі, ня толькі ў сябе на заводах, а і далёка за межамі іх змагаецца з комунізмам, з рэволюцыйна настроенымі рабочымі. У гэтай барацьбе ён апіраецца на трох контррэволюцыйных сіл заводу: сваю асабістую заводзкую паліцыю (ня кажучы ўжо пра паліцыю дзяржаўную), на заводзкія фашыстоўскія організацыі і на контррэволюцыйныя організацыі расійскіх белагвардзейцаў, якія працуюць на Рэпольдавых заводах, і якія служаць лепшымі шпіёнамі для свайго гаспадара.

На чале заводзкае Рэпольдавае паліцыі стаіць расійскі белагвардзеец, што цяпер прыняў францускае грамадзянства—нехта Гоцеў. Гэты Гоц-ў кіруе праз свайго памочніка, таксама расійскага белагвардзейца Сісуна, дзейнасьцю групы „урангелеўцаў" (каля сарака чалавек), якія працуюць на Рэпольдавых заводах шпіёнамі ды зрыўнікамі забастовак. Усе гэтыя расійскія белагвардзейцы жывуць у пансыёне пані Леспінас, якая з аднаго боку зьвязана з фашыстоўскімі організацыямі гораду Парыжу праз фашыстоўскую газэту „Друг народа" і вядомага ворага Савецкага Саюзу Коці.

Поруч, у цесным контакце з расійскімі белагвардзейцамі, працуюць супроць комуністых на заводзе і організацыі чыста фашыстоўскага характару. Адна з такіх організацый завецца „саюзным сындыкатам" ці (бадай правільней) „сындыкатам саюзьнікаў". „Саюзьнікаў" у сэнсе барацьбы з комунізмам, з рабочаю клясаю. „Саюзьнікаў" у сэнсе зрыву рабочых забастовак, шпігаваньня за рабочымі, штрэйкбрэхерства.

---

[1]) Амэрыканская сыстэма эксплёатацыі рабочых (фордзізм і тэйлорызм) на заводах Рэпольда, Сітроена, Мішэлена і інш. францускіх капіталістых пачала сур'ёзна ўжывацца толькі пасьля імпэрыялістычнае вайны, у эпоху часовае стабілізацыі капіталізму і капіталістычнае рацыяналізацыі вытворчасьці.

# АД ВАРШТАТУ ▪ ▪ ▪ ▪ ▪
# Ў ЗДАРОВАЕ ЖЫЛЬЛЁ

У ліпнёвыя і кастрычнікаўскія дні 1917 г. пролетарыят выступіў супроць імпэрыялістычнай вайны з лёзунгам: „Мір сутарэньням, вайна палацам". Закінутае ў сутарэньне сямейства рабочага ніколі ня бачыла сонечнага праменьня, ніколі ня мела мажлівасьці дыхаць сьвежым паветрам.

Выкінуўшы буржуазію з яе палацаў, пролетарыят, апанаваўшы ўладай, перасяліўся ў гэтыя палацы, каб па-людзку жыць. Але імпэрыялістычная і грамадзянская вайна настолькі разбурылі жыльлёвы фонд краіны, а магутнае социялістычнае будаўніцтва настолькі павялічыла колькасьць гарадзкога насельніцтва, што кватэрная проблема востра паўстала перад савецкай уладай. Разгарнулася вялікая работа па будаўніцтву новых рабочых дамоў. Усе гарады БССР, як і ўсяго Саюзу, пакрыліся новымі рабочымі пасёлкамі, якія ня толькі далі рабочым новае жыльлё, але і наблізілі кватэры да заводу. Магутныя гмахі на 70—80 кватэр вырасьлі ў Віцебску, Менску, Гомелі.

Сотні рабочых сямействаў перасяліліся ў сьветлыя і здаровыя кватэры.

Новыя будынкі абсталяваны паводле апошняга слова тэхнікі.






# Па дарозе

Нарыс Ян. СКРЫГАНА

Малюнкі Вал. ВОЛКАВА

— Не, не,—гаворыць яна,—угледзяць людзі, суседзі ды нагавораць чорт ведае чаго. Скажуць, што нават прыняць ня ўмела. Каторы год як ня бачыла брата, а гэта зайшоў па дарозе, дык нават і падвезьці не парупілася. Я ўжо цябе хаця за сяло правязу, а там—калі ты так хочаш пехатой ісьці—дык ідзі.

Яна запрэгла кабылу. Яна ня хоча пусьціць мяне аднаго з сяла. Едам.

Восеньскі ветраны дзень. Палеткі—выгінаючыся па ўзгорках—упіраюцца ў сінь, у лясы, у сёлы. Шэрымі, галоднымі ляжаць яны. У іржэўнік парванымі, патузанымі ніткамі паўпляталася павуціньне. Адзінока па загонах скрыгоча каменьнямі плуг. Чалавек нокае на каня. Паволі крочыць ён спускаючы з баразны воч. Сунімаецца. Крукам выгнуўшы сьпіну, з-пад ног вырывае камень і кідае ў камяніцу.

— Гэй!—сьвіснуўшы пугаю паганяе ён.

Ізноў ціха. Толькі ветраная поўз. Толькі гнуткая восеньская дарога.

Я азіраюся кругом. Тут праходзіла маё дзяцінства. З прагнасьцю я перабіраю яго ў памяці, прыглядаюся да гасьцінцаў, да раскарачыстых старасьвецкіх дзічак на межах, пазнаю чые гэта стаяць ветракі. Вунь там збоку Падлужжа. Некалі яно здавалася далёкім, а гэта мусіць пабольшала і стаіць зусім пры дарозе. А наперадзе мусіць Сьцяпкоў? Так. Сястра кажа, што гэта Сьцяпкоў. А вунь збоку і Калінка і Старасельле. Як, аднак, усё паінача́ла. Павырастала. І не пазнаць. А прайшло толькі сем год.

— От, братка,—кажа сястра,—ты ўжо нават пазабываўся як што і зваць, ты ўжо зусім ачужэў.

— Ня ведаю—можа і ачужэў я, а толькі хочацца як мага больш наглядзецца наўкола, прыпомніць от гэтую забытую, але знаёмую восеньскую ціш.

Сястра паганяе кабылу. Калёсы трасуцца па камяністай дарозе, барабаняць. Узгоркі зьмяняюцца новымі загонамі. Вузкімі, нуднымі, як сама восень. І неяк дзіка, крыўдна, што некалі, яшчэ пры мне былі гэтыя самыя даўжэразныя шнуры з дзічкамі і з бур'янамі на межах. Яны ніяк не зьмяніліся і ад таго здаюцца вельмі пукатымі. Гэта неяк мучыць мяне. Я думаю, што і сястры рупіць гэта, і пытаюся.

— Дакуль вы жыцьмеце так, Ульяна?

— Што?—пытаецца яна незразумеўшы.

— Дакуль у вас будуць гэтыя шнурышчы?



Яна ня ведае, што адказаць. Яна нечага шукае ў сабе. Тузаецца, ня можа знайсьці слоў. Я пачынаю здагадвацца. Мне шкода робіцца і сястры, і зямлі, і гэтых сямі год.

— А хто яго ведае дзе лепш. Калі-ж неяк страшна пачынаць.

Мы пачынаем спрачацца. І я пазнаю: яна зусім дваістая. Яна зусім на раздарожжы. У яе шмат чужых, не сваіх думак. Мне ўспамінаецца гутарка з настаўнікам.

... сельсавет.
... кулацкая лінія.
... тры гады панства...

Значыць ад таго я так і не пазнаю Ўльяны — гэтае першае селавое дэлегаткі. Значыць ты паддалася, Ульяна, а хіба-ж не на цябе гледзячы я пісаў „Затоку ў бурах", аддаючы табе ролю Алесі? Не, не такою я хацеў сустрэць цябе, сястра.

— Вунь новая будыніна відна,—кажа яна, пад'яжджаючы да Грэску.—Гэта-ж сямігодку пабудавалі з самаабкладаньня. Дык неяк і добра робіцца, як бачыш, што пайшло на карысьць. Цяпер-жа і Каця вучыцца там, ды так-жа хапаецца за навуку, што і сказаць нельга. Толькі там кніжкі нейкае не хапае ёй. У яе нават і запісана якое.

І яна пачынае расказваць, як меншыя дома таксама бегаюць у школу, як трудна, што няма работнікаў, што ў іх бываюць частыя пажары і што ніяк ня ўзьбіцца на добрае жыцьцё. Тады зноў заходзіць гаворка па колгас і пра гэтыя бяздольныя шнуры. Яна згаджаецца, што гэта было-б і добра, але што няма каму першаму ў іх пачаць, што толькі адзін настаўнік бярэцца, але яго ня слухаюць, бо ён ня ўмеючы робіць гэта і то ўкі запужвае.

Яе голас звонкі, яшчэ зусім малады, запальчывы—падае ў восеньскі вецер, рвецца і блытаецца ў каўняры кажуха.

— Но-о-о!

За Анупраўскаю гарою — грэбля. З калдобіны ў калдобіну перакідаюцца драбіны. Памаленьку, адна за адною мінаюцца падгалістыя бярэзінкі, грабкі. Наабапал скошанае рыжае балота. На гары вятрак. Журавы курлыкаюць, стройна, ключом хаваючыся за лесам.

— Но-о-о!

З-за аглабель раптам вырасьлі плечы. Суконны палітон, заложаныя назад рукі з кіём кам гойдаюцца не адступаючы ад аглабель. Пасьля рукі рашчапіліся, адна палезла ў кішэню і дастала шабэту. Тады другая ўзяла пад паху кіёк, а зьліняўшая варшаўская шапка пагнулася ўперад.

— Ны, пашла-а!

Кабыла тузанула і чалавек параўнаўся з сядзеньнем. Старанна ўкрываючыся ад ветру, чалавек круціў папяросу.

— Добрага дня, куды гэта ідзеш?—пытаецца Ўльяна.

Чалавек падняў галаву і пырснуў вачыма.

— Здарова! У Грэску быў—а ты-ж куды?

— От мабыць у дарогу—падкідайся.

Чалавек зайшоў з другога боку і ўкінуўся ў перадок. Патузаўся к ыху, урымсьціў ногі, а тады паправіў казырок і адняў голаў. Гэта быў гад у 24 хлапчына, з шэрымі вачыма, круглым задзёрыстым тварам і шчарбатымі зубамі. Вочы глядзелі гарэзна, упорчыва. На іх нізка насядалі бровы і ад таго здавалася, што вельмі вузка і глыбока сядзелі яны. Нос сьмешна задзіраўся ўгору і паказваў дзьве круглых, мясістых ноздры. Верхняя губа налягала на папяросу і здавалася цяжкаю.

— У Грэску быў,—кажа ён зноў,—шукаў бляхі, бо крыху на страху не хапае, але ў коопэрацыі няма і мабыць давядзецца ў Менск ехаць.

— Дык вы ўжо трохі і забудаваліся?

— А ты-ж як думала? Хлявы, гумны пастаўлялі, хаты от канчаем ды будам і жыц.. У нас там і не пазнаеш тае пусткі, што была. Будынкі спрэс новыя—зіхацяць.

Я ведаю гэтую пустку—Ляды. Гэта вялікае між лясоў гала пана Мельнікава. Гала няроўнае, куп'істае, а пасярод яго стаяў чуб старасьвецкага лесу—„Сахран". Казалі, што ў тым лесе вадзіліся ваўкі. А гэта людзі будуюць колгас. Зьнесены раскарчованы лес, павыцярэбваны кусты, а пасярэдзіне пасталі сядзібныя будынкі.

Чалавек з жарам расказвае, як дорага даецца ім гэты колгас, як цяжка зразу было пачынаць і як ім увесь час перашкаджалі Забелы ды іншыя засьцянкоўцы.

Сястра слухае. Яна чула, што гэты чалавек гультай, абібок, а гэта так горача, так зырка ён гарыць работаю. Значыць гэта мана, значыць і ў іх, у Трухановічах, перашкаджаюць Забелы, Семачкі ды іншыя валасныя старшыні. Людзі змаглі раскарчаваць лес, выцерабіць поплаў—зрабіць зямлю,—а яны баяцца параскідаць свае межы, паламаць даўжэразныя трохвярстовыя шнуры.

Чалавек канчае, а Ўльяна яшчэ доўга думае. Драбіны паволі гойдаюцца па калдобінах. Па такіх калдобінах варочаюцца мабыць і думкі. Цяжка, непаваротліва. Ад таго нават углыбіліся, нават пасінелі вочы.

Шугае вецер, нязграбна па небе варочаюцца, адна адну паганяюць хмары.

— Цяпер яшчэ нуднавата, а зараз павесялее,— сьмяючыся,— кажа чалавек.—Яшчэ жанкі нашы ня ўсе пераехалі. Ня кончаны хаты.

— І твае няма?

— У Камені яшчэ.

— Ой, глядзі ты,—весялее раптам і Ўльяна, —пакінуў адну, а там возьме хто дый прыласуецца. Кабеціна-ж маладая.

— Толькі таго і хлопату,—жартам адказвае чалавек,—што ён адкусіць яе? А калі што якое, дык мне работы будзе менш.

Ульяна звонка сьмяецца, а ў яго ад жарту зусім хаваюцца вочы і тырчыць дзіркаю вывалены зуб.

Грэбля мінулася і кабыла ідзе трухам. Збоку пачынаецца лес. Пахне вільгацьцю і гнілатою. Каля карчоў кучамі растуць апенькі. Асовыя лісты пачырванеўшы абрываюцца і цяжка падаюць на дарогу.

— Ого, ты не кажы, Ульяна,—думаеш лёгка было нам рабіць? Ня лёгка. Я яшчэ ўперад быў наглядзеў гэтую мясьціну—раз колькі хадзіў туды, абыходзіў, вымацваў. Станеш— глядзіш—і страх бярэ: як пачынаць, з кім пачынаць і з чым. Балоты, лясы, куп'ё. За што тут, думаеш, узяцца спачатку.

— Знашлося было пяць чалавек. Пры́ходзілі. Глядзелі. Рашылі больш сілы падбіраць. Ну і набралася шмат: з Замосьця, з Рудні, з Покаршава, а чалавек колькі ажно з-пад Ігуменя нашлося. Адусюль, як кажуць, па чалавеку. Брат мой старэйшы таксама быў упісаўся і нават у праўленьне папаў. Ну, і пачалі патроху калупацца. Як глядзелі здалёк, то і нічога было, а ўзяліся за работу—і ад сэрца адлягло. З цямна да цямна жаўрэеш і нідзе ніякага знаку. Ну, другія і давай назад лататы даваць... А брата жонка выпісала.

— Як выпісала?

— Ды так і выпісала. Як насела на яго—не пайду і не пайду. Прывыкла—як коопэратарам яшчэ быў—цукеркі паядаць, а тут трэ' было за работу ўзяцца—не захацела. Надзенецца барыняю, бывала; і сядзіць, а ты ёй выслугоўвай. Паршывая трэба сказаць, жонка ў яго, а ён таксама ня лепшы—прыліп да бабскае спадніцы. Грызе яго жонка, а ён у колгасе нэндзу толькі наводзіць. Ня вытрываў урэшце—уцёк да яе—ну яго к чорту. Гэта не работнік.

Чалавек змоўк. У Борках праз загоны кабыла павярнула нацянькі. Нехта выскачыў і нарабіў крыку. Дарога павярнула паўз лес, нырнула ў волкую восеньскую сьлізь. Вецер шмыгаў над галовамі па аголеным верхавіньні. Унізе стала ўкрадліва ціха.

— Цяпер галоўнае нам з будоўляю канчаць трэба,—перадумаўшы, гаворыць чалавек.—Гады два пагаруем, папакутуем, а там жыць будам як лепш ня трэба. Ты ведаеш гэтае месца? Разрабіўшы яго, гэта будзе зялёны рай. Зямля—паплавы, сена, жаці—рэдка знайсьці. Як ягада. Але лёгка нічога не даецца.

— А добрыя ў нас сабраліся хлопцы. Валаводзілі колькі наскольні цкавалі, бэсьцілі, пужалі—а не паддаліся. Казалі: сабраліся гультаі, абібокі—а гэтыя абібокі зямлю ракам паставяць! Мы думаем тут шмат чаго зрабіць. Першае—нам трэба каровы. Галоў 20 ужо закуплена. На малочную гаспадарку ў нас усе ўмо ы. А наладзім, паднімем гаспадарку— возьмемся будаваць і свае заводы. Малочню ў першую чаргу, а тады пільню, а тады і яшчэ сёе-тое. Мы, брат, таксама сваю пяцёхгодку маем...

Чалавек усё расказвае. Ён да таго захапляецца сваёю гаворкаю, што кожнаму слову хочацца верыць—няма як ня верыць яму. Гэты невялікі суконны чалавек зусім непазорны, а якім аграмадным полымем гарыць яго нутро. такіх іх сабралася шмат. А хто хоча рабіць, хто верыць у гэта-той зробіць. Сястра слухае. Яшчэ больш углыбляюцца, яшчэ больш сінеюць вочы. Якая пакута з гэтымі даўжэразнымі—за край сьвета—шнурамі.

— От, да дзіва, што бывае. Паслухаеш самога чалавека,— кажа сястра,—і верыш яму, і ахвота бярэ, а ў нас, як нагародзяць чорт ведае чаго на гэтыя колгасы, дык аж страх бярэ. Гэта-ж летась яшчэ былі прыяжджалі да нас, каб організаваць, дык дзе там—нічога ня вышла. Семачка як сабраў да сябе паўсяла, ды як спаіў, дык ніхто і рукі не падняў. А я таксама здурнела пад старасьць—маўчу. На мяне от і Янка крычыць ужо, а мне брыдка і прызнацца, што я так асталася ззаду.

Я зноў пазнаю Ўльяну. Як добра, што я цябе знаходжу, сястра, і ты сама аглядаеш сваю дарогу. Ты хочаш заўважыць сваю памылку.

... сельсавет.
... кулацкая лінія.
... тры гады панства.

Ня дзіва, што можна было аслабнуць, адыйсьці назад. І, калі ты цяпер пільна ўглядаешся недзе наперад, сплюшыўшы сінаватыя азяр і воч—я знаю: у цябе складаецца рашэньне. І за гэтае рашэньне я—хоць ня ўмею—а хачу цябе расцалаваць.

— Вунь наша і гняздо відно,—перарывае маўчаньне чалавек.—бач дзе мы аселіся.

Сінь. Волкая ветраная поўз. Управа, праз парасьнік, праз кусты відны будынкі. Блішчаць новымі гонтамі стрэхі.

— Ну, мне злазіць пара. Ужо блізка. Я от сюдэю нацянькі і пайду. Дзякаваць.

— А, няма за што,—кажа сястра,—што гэта значыць такою дарогаю падвезьці чалавека. Усё адно, як улегцах.

— Ну, мала што. Бывайце здаровы.

Паправіўшы шапку і наставіўшы каўнер ён закрочыў у бок, паўз пасёлак. Восеньскі вецер дзьме яму ў твар і расхільвае крысы палітона. Яны адзімаюцца назад, цялёпкаюцца і б'юцца—то адна, то другая—па сьцёгнах. Тонкія—некалі крамныя, шырокія з галіфамі—порткі прадзімаюцца наскрозь і трапечуцца. І ад таго, што ён згорбіўся і падаўся наперад, налягаючы на вецер—шырока ступаюць яго ногі, нязграбна, крыва ставячыся вялікімі ботамі. Што раз усё далей і далей матляецца яго фігура, пераступаючы вецер і золь, і так упэўнена крочыць гэты чалавек, што здаецца яшчэ чутны нават абсацы яго ботаў.

Гэта пайшоў новы, аграмадны чалавек.

Менск,
1929—30 г.






Апавяданьне **МАРЫІ КАЛЬТОФЭН.**

Лёрыда. На ўсход і захад бяжыць рэйкавая стужка: 500 *км* ўнутр краіны да Мадрыду, 150 *км* да горнага ланцугу Пірынеяў. Сонца спусьцілася нізка, аліўкі і хвоі кідалі доўгія цені.

Толькі рэчка блішчэла, нібыта дабела напаленая сталь. У залатым чадзе заходзячага сонца цьмяна ўзьнімаліся тупыя вежы і чадзячыя коміны Лёрыды. Джорджы Фуляно, стрэлачнік па пасадзе, адчыніў у шклянай сьцяне сэмафорнае вежы маленькія дзьверцы.

Міма яго, зварочваючыся пасьля сканчэньня работы, дадому, праходзілі чыгунковыя рабочыя. Яны заклікалі яго: „Алё! Джорджы! Ужо адпачынак!“ Ён крычаў ім усьлед – „Не забудзьцеся на профсаюзны сход, сёньня ўвечары!“ „Мы прыдзем! Мы прыдзем усе!“—адказвалі яны, гамонячы.

Угору па лесьвіцы задрынчэлі крокі: колега, зьмены.

— Вось і я. Што новага?

— Цягнік 218 прыдзе са спазьненьнем на 45 хвілін; вось там ляжыць паведамленьне.

— Дрэнна,—разважаў колега,—што няма нічога новага. Але я нешта ведаю: акруговы выканаўчы камітэт профсаюзу таксама і ў Парагоне зноў выключыў тры асобы.

— Да чорта ў пекла з рэформістымі! Дзе стрэну я Дыэго?

— Ён у рэдакцыі „Сыгналю“, у Фаррэ; яны там чакаюць на цябе...

Ужо за паўгадзіны да пачатку сходу заля невялічкае карчомкі „Для прыпынку“ была перапоўнена. Усё больш жвавай і гарачэйшай рабілася дыскусія вакол усіх сталоў.

— Тут, таварышы, довад, што Фаррэ меў рацыю, калі казаў, што выбары ў конфліктную камісію былі нічым іншым, як ашуканствам мас. Вось слухайце:

„Перамаўленьні аб пэнсіі чыгуначнікаў, пытаньне, якім на працягу апош іх дзён займалася конфліктная камісія, скончыліся. Патрабаваньні канчаткова адхілены“.

— Вось вам лепшы довад таго, наколькі конфліктныя камісіі далёка ад нас. Вы нават ня можаце дабіцца падвышэньня платы ў 5 сантымаў у гадзіну.

— Але камісіі дамагаліся новага рэгуляваньня нядзельнага адпачынку,—памкнуўся нехта заўважыць.

— Нічога яны не дамагаліся. Гэта рэгуляваньне ўжо праектавалася самой Кампаніяй накшталт таго, як гэта існуе ў іншых краінах і было-б у гэткай самай форме зьдзейсьнена і без камісіі!

— Яны-б пры ўсім сваім жаданьні нічога-б не дамагліся,—крыкнуў паміж гэтым трэці,—трое рабочых супроць трох прадстаўнікоў ад Кампаніі, ды яшчэ прадстаўнік ад ураду, тры супроць чатырох, што магло пры гэтым атрымацца?

У куточку ўзьняўся маленькі хударлявы чалавечак і закрычаў ценкім голасам, увесь ракава-чырвоны ад напружаньня і ўзбуджаньня:

— Таварышы! Не чарнеце іх! Могуць здарыцца выпадкі, калі і конфліктныя камісіі дапамогуць нам, хай мы гэтага нават і не заўважым!

Узьнялося глумлівае рагатаньне; бялявы волат, што сядзеў побач з хударлявым, так моцна ляпнуў яму па плячох, што апошні спалохана апусьціўся на сваё месца.

— Сядай, Піпэта, ты адзіны сумленны рэформісты!

Сярод гармідару ўвайшлі Джордж і Дыэго, якіх з захапленьнем прывіталі ўсе прысутныя.

Як толькі неўзабаве пасьля гэтага ўвайшоў рэформіцкі старшыня, раптам усе сьціхлі. Фанабэрыста рушоў ён праз варожую маўклівасьць да стала засядальнікаў.

Зазваніў званок, паседжаньне пачалося.

Старшыня прачытаў ліст акругавога выканаўчага камітэту профсаюзу да сэкцыі Лёрыда. „Выканаўчы камітэт адхіляе беспадстаўны протэст сэкцыі супроць выключэньня Фаррэ і іншых пяці; супярэчаньне магло быць толькі...“ сьвістаньне і крыкі заглушылі далейшае.

Шум адліваўся і Дыэго атрымаў магчымасьць пачытаць некалькі артыкулаў з рэгляманту: акруговы выканаўчы камітэт ня меў права выключаць .. колектыў мае права на крытыку... гэтае права было ў здарэньні з Фаррэ ад пачатку да канца нязьменна парушана...

— Акруговы выканаўчы камітэт, на грунце сваёй улады, адхіляе дыскусію і лічыць гэтае пытаньне вычарпаным,—прароў старшыня, пачырванеўшы ад злосьці. Яго асьвісталі.

Званок перамог гармідар; нехта крыкнуў:

— Абвясьціць вотум недавер'я акруговаму выканаўчаму камітэту. Хай гаворыць Джорджы Фуляно і Дыэго Відал!

Джорджы падняўся:

— Таварышы! Акруговы выканаўчы камітэт перавысіў сваю ўладу, ён выключыў двох нашых лепшых таварышоў, бо яны пачалі супярэчыць рэформіцкай тактыцы SFN. Акруговы выканаўчы камітэт ня здольны абстойваць нашы інтарэсы і заслугоўвае поўнага недавер'я.

Пасьля яго гаварыў Дыэго:

— Таварышы. Я далучаюся да слоў Джорджы і заклікаю вас протэставаць разам з намі.

— Вы жадаеце толькі мець людзей, якія штомесяц плаціць вашы 1,5 пэзэты і ў астатнім трымаюць сваю ляпу,—крыкнуў нехта паміж гэтым.

Другі ўскочыў:

— Таварышы, мы павінны быць напагатове, што ня толькі SFN, але і ўсе правадыры UCT [1]) сапсуты. Гэта пацьвярджае барацьба за плату гарнякоў у Астурыасе. Пад націскам мас падтрымлівала U. C. T. перамаўленьні аб пэнсіі. Але калі прадпрыемцы горных копяй прапанавалі ім за кожную здабытую тону па 1 рэалу, яны з радасьцю згадзіліся. Галодная плата кумпаноў, аднак, засталася такой, якой была.

Вотум недавер'я быў прыняты большасьцю 80%. Новы лісток прапырхаў на стол засядальнікаў: протэст супроць абежніку кіраўніцтва, у якім яны забаранялі членам чытаць „Сыгналь“, газэту опозыцыі. Зноў узьняўся гармідар: патрабоўвалі прыняцьця вотуму.

Званок трашчэў; надрываючыся, крычэў старшыня, абвяшчаючы сход зачыненым.

Ля дзьвярэй мітуснулася дзіцячая рука з пакам газэт і сьвежы галасок пракрычаў

— Купляйце „Сыгналь“, баявы лісток супроць здрады рэформіцкіх Юд!

**Пераклаў А. Б.**

---

[1]) U. C. T. Unione general trabajadores—Амстэрдамскі профінтэрн (гішп).

# ГЭРОЙ ПРАЦЫ

## ДОБРУШ



Напружанае змаганьне рабочай клясы БССР за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады найшло сваё выяўленьне ў пасьпяховым завяршэньні другога году пяцігодкі і ў фактычным перавыкананьні прамфінпляну па ўсіх паказальніках на многіх фабрыках і заводах БССР.



На здымках, зьлева направа, уверсе: 1) агульны від Добрускай ф-кі; 2) пабудова электрастанцыі; унізе: 1) новы цэх, 2) агульны від.



Папяровая фабрыка „Гэрой Працы“ у Добрушы выканала і перавыканала павялічаны прамфінплян другога году. Культурная рэволюцыя атрымала дадатковыя дзесяткі і сотні тон паперы, патрэбныя для ўсеагульнага навучаньня, для магутнага ўздыму культурнага ўзроўню насельніцтва.

У ліку перадавых прадпрыемстваў БССР, для ўдзелу ва Ўсесаюзным Конкурсе, ЦСПСБ высунуў і фабрыку „Гэрой Працы“, якая мае вялізарны вопыт барацьбы за выкананьне пляну.



# Укіё-э.

## З НЯДАЎНЯГА МІНУЛАГА ЯПОНСКАГА МАСТАЦТВА

Нарыс К. ОСАКА.



Катагаўа Ушамаро. Гейша.

Японскае мастацтва з даўніх часоў мае імпрэсіонісцкі характар. Магчыма, што эўропэйскі імпрэсіонізм нарадзіўся пад некаторым уплывам японскага мастацтва. Паколькі японскае мастацтва, як і ўсякае іншае, абслугоўвала і абслугоўвае пануючую клясу Японіі, а такой клясай да апошняга часу зьяўлялася (ды і дагэтуль у значнай ступені зьяўляецца) фэодальная арыстократыя, зусім зразумелы арыстократычны характар гэтага мастацтва. Найбольш характарнай рысай яго зьяўляецца моцны насычаны вобраз, які перадае рэчаіснасьць у згушчаных фарбах і які далёка не заўсёды зразумелы для „простага народу“, для шырокіх працоўных мас.

Такое мастацтва служыла для асалоды купкі пануючых драпежнікаў, але ў умовах культурнага росту працоўных мас, яно не магло ў належнай меры ўплываць на іхную псыхіку, не магло



Юаса-Матабэй. У японскай кватэры.

ў належнай ступені дапамагаць эксплёататарскім клясам у справе прыгнечаньня працоўных. Натуральна, што зьявілася патрэба ў больш популярным мастацтве, у меншай ступені „філёзофскім“ і ў большай ступені „дэмократычным“, якое здавалася-б працоўным „сваім“, — „народным“ мастацтвам, але якое, па існасьці справы, заставалася-б такім-жа рэацыйным, як і тая кляса, якая яго стварыла, і інтарэсам якой яно павінна было служыць. Гэтае мастацтва зьявілася ў XVI стагодзьдзі ў выглядзе групы „укіё-э“.

Мастацтва укіё-э мае рэалістычны характар са значным налётам імпрэсіонізма і з усіх школ японскага мастацтва яно зрабілася найбольш вядомым у Эўропе. У эўропэйскіх і амэрыканскіх музэях можна знайсьці шмат каштоўных твораў гэтае школы.

Найбольш раньнія творы школы укіё-э належаць мастаку Юаса-Матабэй, якога і прынята лічыць пачынальнікам гэтае школы. Аднак, гэта ня зусім правільна, бо некаторыя мастакі школы Ямато-э яшчэ значна раней пачалі маляваць свае творы ў стылі, блізкім укіё-э. Такім чынам, гэтая школа па існасьці справы зьяўлясцца як-бы працягам, вышэйшай ступеньню разьвіцьця папярэдняе школы. Першым буйным магістрам школы укіё-э лічаць мастака Гішыкуя-Маронобу, у творчасьці якога стыль укіё-э дасягнуў клясычнае дасканаласьці і закончанасьці. Ксылёграфічныя альбомы яго работы зьяўляюцца надзвычайна цікавымі і каштоўнымі помнікамі мастацтва. Характарнымі рысамі творчасьці гэтага мастака зьяўляюцца далікатнасьць і каліграфічнасьць яго твораў, што набліжае іх да творчасьці ягоных папярэднікаў са школы Ямато-э.

Другім выдатным мастаком школы укіё-э быў Торыё-Кіёнобу, які вядомы сваімі творамі з тэатральнага жыцьця. Портрэтамі жанчын вядомы мастак Кайгецудо. Шмат новага ўнёс у тэхніку ксылёграфічнай каляровай творчасьці мастак Сузукі, пад уплыў якога падпаў цэлы шэраг пазьнейшых мастакоў, у ліку якіх ёсьць і выдатныя майстры. Нарэшце, адным з лепшых пэйзажыстых укіё-э быў Ічурыошай-Гірошыге.

Занялад укіё-э пачаўся ў канцы XIX стагодзьдзя, калі японскае мастацтва пашло па шляху эўропэйскага мастацтва.

Слова „э“ па-японску азначае „выяўленчае мастацтва“, а слова „укіё“—адзначае „зямное жыцьце“. Такім чынам „укіё-э“ адзначае: „мастацтва зямнога жыцьця“. Укіё-э сапраўды і было гэткім. У жывых, рэальных мастацкіх вобразах яно адлюстроўвала японскае жыцьцё, японскую рэчаіснасьць, хаця, рэч ведама, ня было яно цалкам пазбаўлена ўплываў так званага „філёзофскага“ — арыстократычнага мастацтва, чаму, па існасьці справы, яно зьявілася як-бы пераходнай ступеньню ад старадаўняга японскага імпрысіонісцкага мастацтва да сучаснага японскага эўропэізаванага мастацтва, якое сваім рэалізмам хутка заваявала сымпатыі шырокіх колаў японскае дробнае буржуазіі. Посьпеху гэтага апошняга ў значнай ступені спрыяла і тое, што ў апошнія часы, у XIX стагодзьдзі, укіё-э ў значнай ступені дэгенэравала, выразіўшыся ў романтычнае мастацтва, аднэй з асноўных стылявых адзнак якога зрабілася ідэалізацыя экзотычнае романтыкі мінулых часоў, асабліва чужая для працоўных мас Японіі. Укіё-э адмёрла, пакінуўшы быць прогрэсыўным мастацтвам, пачаўшы адыгрываць ролю консэрватыўнага рэакцыйнага фактара ў грамадзкім жыцьці Японіі.

Укіё-э адыграла вялікую ролю і займае пачэснае месца ў гісторыі Японскага мастацтва.



Гішыкаўа Маронобу. Японкі.

# Джон Вільям Пэтэрсон

Апавяданьне С. ПІЛІПЭНКА

Малюнкі Я. РОЗАНАВА

РЭДАКТАР „Плянэты", ілюстраванага часопісу з прэтэнзіяй на вялікі тыраж, ляжаў на канапе і нэрвова дрыгаў нагой.

Недакуркі атручвалі паветра агідлівым пахам. Насупроць, над вялікім сталом з купамі сыпісанай паперы, схіліўся сакратар.

— Катуй мяне далей, Янка! Вось недарэкі, вось нязьдольныя людзі! Жыцьцё вірам круціцца, як паветра перад пропэлерам, імчыцца уперад, як рулон на ротацыйнай машыне, а ў іх усё яшчэ раска на паверхі ставу, шкло, запэцканае мухамі, іржавая бляха. Эх, няма пякучай крытыкі! Няўжо мы так і ня выбярэм з гэтага бараxла ніводнай цікавай новэлькі? Ну, чытай далей, псуй мне нэрвы.

— Вось, нейкага ...енкі на палову аркушу.

— Добра, смалі.

„Падсьлепаватыя хаткі нізка насунулі на вокны свае саламяныя шапкі. Вербы журліва глядзелі на ціхае шкло старэнькага ставу. Падаткнуўшыся, Рыпіна"...

— Ну! Я не казаў? Годзе! У кошык! Эпоха індустрыялізацыі тут разгортваецца, а ён аб журблівых вербах, ёлуп, піша. А гераіня, чуеце—Рыпіна! Штосьці выпнутае, як чэрава цяжарнай бабы, як сьвінячы кіньдзюк...

— Ну, ня лайцеся. Вось другое апавяданьне—„На просты шлях". Чытаць? Слухайце.

„Мікіта даўно юрліва хапаў вачыма бліскучыя, спружыністыя лыткі Марылі. Бедная наймітка"...

— Даволі! Не магу! Адылі ўсё ясна: кулак яе неўзабаве, і абавязкова ў клуні, згвалтуе, а яна з помсты і гора пойдзе у комсамол або і ў партыю. Лепшага ня выдумаюць... А ну, глядзі канец.

„Электрычнае зьзяньне з адчыненых вокан клюбу раскідвала палосы сьляпучых праменьняў на шлях, які вёў да далёкага гораду. Гэтым шляхам ішла Марыля з Рыгорам"...

— Вось бачыш—проста ў партыю... Што там яшчэ ёсьць?

— Тут штосьці ўжо невясковае, мусіць, бо „Брукаваныя крокі".

— Можа хоць тут пашанцуе.

„Шэрай халепай вісеў над горадам туман. Па сьлізкіх хаднікох адзінока зьвінелі крокі запозьненых прахожых. Цёмнай масай балванеў на рагу вялізны казан. Там штосьці варушылася"...

— Стоп! Зноў бяспрытульныя! Глядзі канец!

— Вось канец:

„Матруна хуткім крокам выйшла з важкай заводзкай брамы. Раптам яе погляд упаў на нейкую нязграбную масу. На рагу стаяў даўно знаёмы казан. Там загартоўвалася яна для новага жыцьця. Уздыхнула:

— Не, майму дзіцяці не давядзецца ўжо пазнаць гэта. Мая Галачка ў школе..."

— А можа і ў Вузе. Дынамічны пісьменьнік. Наўрокам! Такі ня згіне, а вось „Плянэта" згіне, як чатырнаццаць пунктаў Вільсона...

— А ну, пачакайце. Вось штосьці Вільсонаўскае ці, як яго, Пэтэрсонаўскае. Пераклад з ангельскай. Каля аркушу будзе.

— О, даеш Эўропу! З гэтага-б ты і пачаў, а то братка...

Рэдактар аж трохі падняўся, а сакратар са здаволенай усьмешкай пачаў:

„Мэры білі нязносныя дрыжыкі. Чаму, сапраўды, Рычард спакусіў яе прыйсьці сюды, а ня ў цёплы цэнтр Лёндону, у густы хмызьняк Гайд-парку. Тут у гэтай смуроднай гавані так холадна. Густы туман баваўняным абрусам расьцілаўся над шклянай паверхняй Тэмзы і аблытваў нізкія будоўлі на прыбярэжнай вуліцы. З адчыненых вокан бараў міргалі жоўтаватыя вагеньчыкі падсьлепаватых ліхтароў, у іхным водбліску ледзь-ледзь відаць былі высокія рэі акіяністых пераплаваў.

Ах, Мэры так лятуцела пабываць калі-небудзь на гэтых дзівосных страшыдлах. Яны з Рычардам яшчаркай калісьці прасьлізгнулі былі на „Атлянтык", але боцман заўчасна заўважыў іх і завярнуў назад па сходах трапу. Але яна даб'ецца свайго. У яе маленькім худым целе, пад падраным рызьзём, хаваецца вялікі брытанскі дух. Яе бацька загінуў недзе ў колёніях, пракладаючы шлях цывілізацыі. Ён быў адважны марак. Яе маці—крэолка-танцорка. У далёкай Гватэмалі знайшоў яе Мэрын бацька і прывёз у туманны Альбіён. Ня вытрымала гарачая паўднёвая натура крэолкі паўночнай халепы і хутка згарэла ў сухотах. Мэры апынулася на тротуары"...

Рэдактар цмокнуў:

— О, адразу відаць вопытную руку. Трохі расьцягнуты ўступ, але ўжо ёсьць завязка, намечаны тыпы герояў, чытач чакае ад іх барацьбы за свае лятуценьні. Гэта вам ня нашы азіяцкія Рыпініды або Рыгорыяды. А галоўнае—незнаёмы фон захапляе. Малайчына як яго там—Пэтэрсон, ці як? Эх, адарваліся мы ад эўропэйскага жыцьця... а ну, Яначка, што-небудзь з сярэдзіны, бо ўжо позна. Сам потым адрэдагуеш, калі спынімся на гэтым... Як яно называецца?

— „Праз марскі туман".

— Ага, гэта табе ня харкаўскі, і ня кіеўскі туман. Ну, гані з сярэдзіны.

„Разьдзел чацьверты".

Мэры ўжо два гады нудзілася ў гэтай пустыннай фэрме Нью-Гэмстоне, часам плачучы ў куточку, лятуцаючы аб сваім улюбёным, цяпер такім далёкім, недасяжным моры. Ах, Рычард! Як ён мог быць такім бязьлітасным? Як ён мог пакінуць яе тут адну-адзінюсенькую, на зьдзек гэтаму тоўстаму агідліваму Конраду? Калі ён юрлівымі вачыма мацаў яе яшчэ напалову сформаваную дзявочую постаць, ёй здавалася, нібы паскудныя чырвоныя рукі фэрмэра, якія абрасьлі густым рыжым валосьсем, ужо хапаюць яе. Але-ж недарэмна хавае яна за корсажам ценкі сталёвы стылет—адзінае, што засталася на памяць ад палкай крэолкі-мацеры. О! Яна зможа абараніць сябе! У крайнім выпадку батрак Джэмс дапаможа. Недарэмна-ж ён глыбока ўздыхае і саромліва чырванее, калі яна праходзіць паўз яго. Бедны! Ён спадзяецца, што Мэры можа зьлітавацца над яго сьлінявым каханьнем"...

— Годзе! Цудоўна! Інтрыга ўскладняецца, уводзяцца новыя героі, намячаецца цікавая барацьба інтарэсаў. „Плянэта" ўратавана. Каб канчаткова ўпэўніцца і не марнаваць часу, давай апошні абзац.

Сакратар перагарнуў старонкі.



— Вось вам фінал:

„Глуха бурчэла вялізарная машына „Атлянтыка", магучым рухам разрэзваючы шумлівыя акіянскія хвалі. На бугшпрыце зьзяў шырока раскрытым вокам прожэктар, кідаючы сьляпучыя палосы праменьняў у невядомую далеч, дзе чакала Мэры і Рычарда шчасьлівая будучыня. Спрытным рухам разгарнула Мэры зьвівальнік і шапнула дзіцяці схваляваным голасам:—Бачыш, даражэнькі мой, табе не давядзецца ўжо болей блукаць у туманах.

Канец".

— Так. Ідзе ў чарговы нумар. Больш-бы такіх... Яначка, як той аўтар, ніяк не запамятаю?

— Джон-Вільям Пэтэрсон, сэр рэдактар.

— А хто пераклаў, містэр сакратар?

— Ніхто, мілорд...

— Як?

— А вось так. Аўтар гэтага апавяданьня—я Іван Васільевіч Петрэнка. Калі ласка, ганеце гонорар.

**З украінскага пераклаў П. Б.**

# Інстытут фізычных мэтодаў лячэньня



Ня так даўно ў Менску пачаў працаваць нанава абсталяваны і пашыраны інстытут фізычных мэтодаў лячэньня НКАЗБ.

Пад інстытут адведзены новы спэцыяльна пабудаваны будынак па вул. Валадарскага. Інстытут абсталяваны паводле апошніх дасягненьняў тэхнікі фізіятрыі. Покуль у інстытуце ёсьць аддзяленьні: электралячэбнае, сьвятло-цяпло-лячэбнае, вадалячэбнае, мэханатэрапіі, гразя-лячэбнае і рэнтгенаўскі габінэт. Вызначаны да арганізацыі: інголятары і радыевае аддзяленьне.

Вадалячэбніца ў новым будынку пачне працаваць у сярэдзіне лета, а грязялячэбніца некалькі пазьней. Інстытут мае добра абсталяваныя дасьледчыя габінэты і ляборатарыі (газаабмен, плетызмографія, мікрофотографія, мікрохэмія, гістолёгія і г. д.). Пабудавана экспэрымэнтальная ляборатория, дзе рад лячэбных мэтодаў будзе праверананы і вывучаны спачатку на жывёлах. Пры інстытуце ёсьць дыспансэр і стацыянар нэўролёгічны і ортопэдычны з опэрацыйнай. З восені г. г. мяркуецца адчыненьне дзіцячага нэўтролёгічнага стацыянару.

Апрача гэтага, у інстытуце будуць, а часткова ўжо практыкуюцца, колектыўныя мэтоды лячэньня: кварцавая амбуляторыя; корэгіруючая гімнастыка, колектыўны спосаб лячэньня дэфэктаў мовы, інголяторый ды інш.

Сярод абсталяваньня, у якасьці рэдкіх у СССР апаратаў, вызначаюцца і хроноксімэтр, гіганцкі душ-масаж — вадзяны і паветраны, кінэта-тэрапэўтычная, моторная і сьпябаючая ванны.



Агульная Д'Арвансалізацыя.

У задачы інстытуту ўваходзіць: змаганьне з прамысловымі і сельскагаспадарчым траўматызмам, з рознымі профэсіянальнымі і соцыяльнымі хваробамі,— гэта па лячэбнай лініі, а па лініі профілактычнай арганізацыя мерапрыемстваў змаганьня з пакрыўленьнямі хрыбта ў дзіцячым узросьце, з рахітам, замацаваньне нэрвовай сыстэмы, навуковы падлік фізычных фактараў і г. д.



Індывідуальная жывасрэбна-кварцавая тэрапія (штучнае горнае сонца).

У плян працы інстытуту ўваходзіць— цесная сувязь з вытворчасьцю, з піонэрскімі лягерамі, хуткая арганізацыя дапамогі колгасам. У галіне навуковай працы Інстытут мае на мэце заняцца падрыхтоўкай да двух міжнародных зьездаў: па нэўролёгіі (Бэрн) і фізіотэрапіі (Льеж) Програмнай тэмай апошняга зьяўляецца хроноксімэтрыя — навейшы мэтод электроўзбудзімасьці, якая дазваляе даваць раней дыягноз хваробе. Хроноксімэтрычны Інстытут займаецца ўжо некалькі год і зьяўляецца піонэрам сваё справы ў СССР. Апрача гэтага, Інстытут зьяўляецца вялікай базай для кадраў БДзУнів (нэўротолёгіі, фізыятрыі, ортопэдыі), у справе падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спэцыялістых і навуковых працаўнікоў.

Інстытут наладжвае сувязь з курортазнаўчай справай у Беларусі, знаходзіць спосабы падліку вынікаў курортнага лячэньня.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Сеньніцкі с/с прыслаў у Менск чырвоны абоз.

Абоз, організаваны Мопрам. 46 фурманак прывезьлі звыш 1000 пудаў жыта.

На здымку: абоз на пляцу Волі.



На рагу Савецкай і Ленінскай вуліцы ў Менску заканчваецца будаўніцтва дому Дзяржбанку. Па сваёй архітэктуры дом робіць вельмі добрае ўражаньне.



Колгас „Новыя Ляды“, Пухавіцкага раёну, здае жыта.



Зруйнаваны бела-палякамі гор. Барысаў за 10 год існаваньня БССР узбагаціўся ня толькі новымі фабрыкамі і заводамі, але і культурнымі ўстановамі. На здымку новая школа.

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



Прамываньне савецкага каўчуку „хандрыла“ на заводзе „Чырвоны Багатыр“ у Маскве.



Клюб гарбароў „Буревестник“, пабудаваны ў Маскве.



У Бранску на заводзе „Чырвоны Профінтэрн“ пабудаваны новы цэх сельскагаспадарчых машын.



Калгас „Чырвоны Садавод“ у Гжэндараскім раёне пабудаваў хлеў і сушыльню тытуну. Сушыльня каштавала 10.000 р. Сушка тытуну мэханізавана. Уборка і сушка на вагоных рамах ідзе поўным ходам.



У Кімёровы пабудаваны палац працы.



Адказным сакратаром Расійскай Асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў абраны т. Л. Авэрбах. На здымку: т. Л. Авэрбах.

# ЗА МЯЖОЙ



У жніўні м-цы ў прымежным гарадку Штольбэрзе (Нямеччына) адбыўся зьлёт рабочых пяці краін: Нямеччыны, Францыі, Галяндыі, Бэльгіі і Люсэмбургу. Дэмонстрацыя, у якой прымала ўдзел звыш 20.000 рабочых, прайшлі пад лёзунгам: „Прэч усе межы“, „Вайна вайне“. Над пролетарскімі батальёнамі лунаў чырвоны сьцяг Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

На здымку: Рабочыя нясуць плякат: „Мы барыкадныя ваякі заўтрашняе бойкі.




Дэмонстранты на вуліцах Штольбэрга з плякатамі: „Вайна вайне“.




Дэмонстранты ў Штольбэрзе нясуць плякат у форме пяцікановай зоркі, на якой напісаны назвы пяці краін, рабочыя якіх прымалі ўдзел у зьлёце.



У Бэрліне (Нямеччына) адбылася дэмонстрацыя рабочае моладзі, якая прайшла пад лёзунгам: „У бой за Савецкую Нямеччыну“. Сотні тысяч маладых змагароў за ажыцьцяўленьне рэволюцыйных лёзунгаў Комуністычнае партыі выйшлі на вуліцу і дэманстравалі сваю гатоўнасьць да бою з міжнародным капіталам.




Масавая выбарчая дэмонстрацыя ў Рурскай краіне (Нямеччына), організаваная нямецкай комуністычнай партыяй. Дэмонстранты нясуць плякат з надпісам: „Мы здолеем абараніць Савецкі Саюз“.




Выбарчы сход у Бэрліне, наладжаны комуністычнай партыяй Нямеччыны. Компартыя прыймае чынны ўдзел у выбарчай кампаніі не для таго, каб удзельнічаць у парляманцкай комэдыі, але для таго, каб выкарыстаць парлямант для барацьбы супроць буржуазнае дэмократыі і выкрыць фашысцкую сутнасьць палітыкі нямецкага ўраду.

На здымку: прадстаўнік компартыі Нямеччыны т. Ільбрыхт гаворыць прамову.

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА




**Н. ЛЯШКО.** З чарадою (пераклад з расійскай мовы). БДВ. Менск, 1930 г. 237 стар. Цана 1 руб.

Заклік рэволюцыі—стаць профэсіянальным рабочым пісьменьнікам Ляшко выканаў.

Яго апавесьці і апавяданьні аб мінулым пролетарыяту—„З чарадой“, „У разлом“, „Апавяданьні аб кайданах“ ды першая спроба падыйсьці да нашага сёньня—„Доменная печ“ — прыгожыя старонкі, якія патрэбны ня толькі сучаснаму чытачу, але і будучым пакаленьням.

Майстэрства псыхолёгічнага малюнку мы маем у яго апав. „З чарадой“. У апавесьці расказваецца аб падпольнай соцыял-дэмократычнай рабоце 1907—12 г.г. Схэматычна фабула можа быць прадстаўлена так: малады рабочы, разьвіты, толькі нядаўна уцёкшы ад вясковага безьзямельля ў горад, уваходзіць у рабочую партыю, клясава расьце і адчувае свой абавязак падзяліцца ведамі з масай. Ляшко сьвядома вядзе апавяданьне ад першай асобы — сказ дазваляе яму вычэрпываюча ахапіць галоўную дзейнічаючую асобу, яна-ж апавядальнік. Бязумоўна, БДВ зрабіла добрую справу, пераклаўшы гэты твор — адзін з лепшых твораў Ляшко.




**ШОЛАМ-АЛЭЙХЭМ**—Хлопчык Мотка, з яўрэйскае мовы пераклаў З. Бядуля, БДВ. Менск 1930 г. 146 стар. Цана 40 к.

Пераклады з яўрэйскіх поэтаў і пісьменьнікаў ужо параўнальна даўно спатыкаюцца на старонках нашых часопісаў. Але да апошняга часу мы ня мелі паасобных кніжок лепшых яўрэйскіх аўтараў.

„Хлопчык Мотка“ Шолама-Алэйхэма ў перакладзе З. Бядулі зьяўляецца першым перакладам, які вышаў паасобнай кніжкай. Творы Шолама-Алэйхэма шырока вядомы яўрэйскім працоўным масам і тым прыемней выхад ягонай кніжкі ў нас.

Мотка вырас і выхаваны на традыцыях старога яўрэйскага мястэчка. Ён поўны местачковых сынагогальных уяўленьняў аб сусьвеце. І вось. атрымаўшы ў бацькоў іх веру і іх погляды на рэчы, ён едзе з свайго роднага мястэчку ў Амэрыку. У часе вандраваньня ён успрымае сьвет праз свае, атрыманыя ад бацькоў, уяўленьні і паняцьці. У наіўнасьці хлопчыка Моткі расчыняецца ўся сваяасаблівасьць успрыняцьця новага для яўрэйскага сусьвету.

Уціск буйнага капіталу, набліжэньне крушэньня векавога яўрэйскага мяшчанскага побыту, супярэчнасьці паміж векавой рэлігійна-нацыянальнай сьвядомасьцю патрыярхальнага яўрэя і перадрэволюцыйным капіталістычным быцьцём вось фон, на якім разгортваюцца падзеі твору.

Кніжка з цікавасьцю будзе прачытана нашым чытачом.




**ВЯЧ. ШЫШКОЎ.** Галавасек (апавяданьні). БДВ. Менск, 1930 г. 48 стар. Цана 16 кап.

Наш кніжны рынак зусім ня мае гумарыстычнай літаратуры. Некалькі кніжок Крапівы—вось амаль усё, што ў нас маецца. Але попыт чытачоў на гумарыстычную літаратуру значны.

Таму добра зрабіла БДВ, якое пачало пакрысе выдаваць у перакладах некаторыя ўзоры з расійскай, украінскай і яўрэйскай літаратур.

Кніжачка В. Шышкова зьмяшчае гумарыстычныя апавяданьні з жыцьця „вяскоўцаў“. Перад чытачом праходзіць цэлы шэраг самых рознастайных тыпаў сялян: Халітон, які спужаўся тэлефону, дзед, які верыць, што ў нутро да яго залезла вужака і інш.

Паказ неадпаведнасьці паказнага боку зьяў і іх істоты характарны для гэтых апавяданьняў. Варта-б было, па прыкладу Украіны, выдаваць спэцыяльную сэрыю хоць-бы накшталт „Весела кніжка“.






**А. Серафімовіч**—Жалезны паток (пераклад з расійскае мовы). БДВ, Менск, 1930 г. 240 стар. Цана 1 руб.

„Жалезны паток“ (лепш было-б „струмень“) А. Серафімовіча зьяўляецца адным з лепшых твораў расійскай пролетарскай літаратуры.

Гэта героічная эпопэя партызанскага атраду на Кубані „жалезнага струменю“, які праз вялізарнейшыя перашкоды ідзе на злучэньне з Чырвонай арміяй.

У аповесьці шмат такіх малюнкаў, якія ўзрушаюць чытача.

Нястрымная энэргія рэволюцыі, якую ня могуць спыніць варожыя сілы, якая буйна крынічыць, змываючы ўсе перашкоды, мастацкі паказана аўтарам.

Можна толькі радавацца перакладу гэтай кніжкі на беларускую мову. Але неабходна, каб БДВ на пераклады мастацкае літаратуры паказвала прозьвішчы перакладчыкаў,—гэта прымусіць іх больш адказна адносіцца да перакладу і часткова пазбавіць тых недахопаў, якія яшчэ маюць месца.




„Жыцьцяпіс рэволюцыйных правадыроў“. БДВ. Менск, 1930 г.

Працоўныя Савецкай Беларусі павінны ведаць жыцьцёвы шлях, шлях барацьбы і перамог правадыроў рэволюцыі, лепшых і адданых кіраўнікоў Комуністычн. партыі.

Ідучы на спатканьне чытачу, наша БДВ пачало выдаваць паасобнымі брошурамі жыцьцяпісы правадыроў рэволюцыі.

Пакуль вышлі: „Як жыў і працаваў Карл Маркс“—Курскага (40 стар. Цана 15 кап.), „Язэп Вісарыёнавіч Сталін“ — Таўстухі (15 стар. Цана 4 кап.) і „Якуб Міхайлавіч Сьвярдлоў“—Гайсінскага (112 стар. Цана 45 кап.).

Кніжкі напісаны простай і зразумелай мовай. У кожнай маецца портрэт, некаторыя маюць заўвагі і тлумачэньні незразумелых слоў.


Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.



# БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

## ВЫШЛІ З ДРУКУ І ПРАДАЮЦЦА ВА ЎСІХ КНІГАРНЯХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА І КНІГАРНЯХ СПАЖЫЎТАВАРЫСТВАЎ.

### Масавая.

| | |
|---|---|
| **П. Броўка.** — Прамова фактамі. Стар. 30. | Цана 20 кап. |
| **А. Серафімовіч.** — У нумары. Стар. 39. | Цана 15 кап. |
| **М. Долін.** — Кроў сусьвету. Стар. 32. | Цана 10 кап. |
| **П. Баеўскі.** — Як змагацца з бюракратызмам. Стар. 93. | Цана 17 кап. |
| **Х. Сьцепанюк.** — За пралетарскую культуру, за пісьменнасьць. Стар. 73. | Цана 20 кап. |
| **М. Кокорын.** — Партактыў і задачы абароны СССР. Стар. 100. | Цана 45 кап. |
| **М. Рабіноў** — Што такое стандартызацыя. Стар. 52. | Цана 20 кап. |
| **М. Канапніцкая, К. Станкевіч.** — 1) Мэндаль Гданскі, 2) Ісайка. Стар. 73 | Цана 30 кап. |
| **А. Нікольскі.** — Тэхніка бясьпечнасьці працы. Стар. 60. | Цана 15 кап. |
| **П. Уралаў.** — На заводзе. Стар. 16. | Цана 5 кап. |
| **Л. Курыловіч.** — Рахіт у дзяцей і змаганьне з ім. Стар. 43. | Цана 25 кап. |
| **В. Кобі і В. Зьмітроўскі.** — Тварам да твару. Стар. 40. | Цана 10 кап. |
| **В. Шчарбакоў** — Кастрычніцкая рэволюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя. Стар. 127. | Цана 75 кап. |
| **М. Фейгельсон.** — Рашучы адпор кулацкаму шкодніцтву ў збожжазагатоўках. Стар. 29. | Цана 6 кап. |
| **Я. Падрэцкі.** — Збожжазагатоўчая кампанія ў 1930-31 годзе. Стар. 47. | Цана 17 кап. |
| **С. Валодзін.** — Адзінаначальле на вытворчасьці. Стар. 32. | Цана 7 кап. |
| **В. Макараў.** — Вершы жаданьняў. Стар. 85. | Ц. 1 р. 5 кап. |
| **Я. Купала.** — Адцьвітаньне. Стар. 78. | Цана 50 кап. |
| **А. Куляшоў.** — Росквіт зямлі. Стар. 32 | Цана 20 кап. |

### Сельска-гаспадарчая.

| | |
|---|---|
| **М. Савіцкі** — Хэмізацыя сельскай гаспадаркі БССР. Стар. 70. | Цана 25 кап. |
| **С. Журык.** — Як сіласаваць кармы. Стар. 20. | Цана 10 кап. |
| **Г. Пратасеня.** — Кіслотнасьць глеб. Стар. 77. | Цана 27 кап. |
| **А. Прохараў.** — Культура цукровых буракоў у БССР. Стар. 103. | Цана 35 кап. |
| **С. Хоміч** — Лушчэньне іржышча. Стар. 35. | Цана 10 кап. |
| **В. Чэмелаў.** — Гадоўля гатунковага збожжа ў калгасах і саўгасах. Стар. 48. | Цана 17 кап. |
| **Ф. Налетаў.** — Жыцьцё, будова і заганы дрэва. Стар. 14. | Цана 20 кап. |
| **Н. Пілько.** — Барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін у БССР. Стар. 25. | Цана 12 кап. |
| **А. Адотаўноў.** — Што трэба ведаць трактарыстаму, які пачынае працаваць на трактары „Фардзон". Стар. 91. | Цана 25 кап. |
| **П. Заяц.** — Задачы ўборачнай с.-г. асеньняй кампаніі ў 1930 г. Стар. 46. | Цана 17 кап. |
| **К. Вансецкі.** — Мэханізацыя і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі ў БССР. Стар. 63. | Цана 12 кап. |
| **У. Гнеўка.** — Якператвараць балота ў выгадную зямлю. Стар. 56. | Цана 20 кап. |
| **Ляховік.** — Жывёлагадоўля на першай усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Стар. 22. | Цана 10 кап. |
| **У. Гнеўка.** — Плотнёвыя пабудовы ў мэліярацыйнай справе. Стар. 23. | Цана 20 кап. |
| **Тоўкачоў.** — Якасьць насеньня і ад чаго яна залежыць. Стар. 104. | Цана 20 кап. |
| **Падрацкі.** — Збожжазагатоўчая кампанія 1930 г. Стар. 47. | |

### Вайсковая.

| | |
|---|---|
| **І. Сандамірскі.** — Гігіена чырвонага байца. Стар. 69. | Цана 15 кап. |
| **Я. Быстрыцкі.** — Брыва. Стар. 72. | Цана 25 кап. |
| **В. Калтыпін.** — Барацьба за мір і Чырвоная армія. Стар. 44. | Цана 10 кап. |
| **С. Вянцоў і Пятухоў.** — Чырвоная армія да XVI зьезду. Стар. 46. | Цана 10 кап. |

### Мэдыцынская.

| | |
|---|---|
| **Я. Напэльбаум.** Гігіена поласьці рота і зубоў. Стар. 36. | Цана 37 кап. |

### Тэатральная.

| | |
|---|---|
| **М. Трыгер.** — Доктарскі сэкрэт. Стар. 16. | Цана 10 кап. |
| **У. Влагін.** — Сутычка. Стар. 48. | Цана 25 кап. |
| **А. Чыркоў.** — Зямля кліча. Стар. 118 | Цана 90 кап. |

### Дзіцячая.

| | |
|---|---|
| **А. Александровіч** — Як цацкі дома зрабіць самому. | Цана 25 кап. |
| **Г. Дзітрых.** — Ваянізацыя ў піянэратрадзе. Стар. 80 | Цана 15 кап. |

ПЕРШЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ**

і

ШТОМЕСЯЧНЫ БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

**12 КНІЖОК**

**замест 12 рублёў— толькі 10 руб.**

Падпісчыкі, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць на працягу 1930 г. адразу два часопісы— **„Чырвоная Беларусь“ і „Полымя“.** Падпісчыкі час. **„Полымя“**, якія ўжо ўнесьлі гадавую плату, будуць атрымліваць час. **„Чырвоная Беларусь“ дармова.**

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1930 ГОД

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“**

На 1 год . . . . . **3** р.
„ паўгода . . . . **1** р. **50** к.
„ 3 месяцы . . . — **75** к.
Цана асобн. нумару — **15** к.

**„ПОЛЫМЯ“**

На 1 год замест **12** р.—**10** руб.
„ паўгода . . . . — **5** руб.
„ 3 месяцы . . . — **3** руб.
Цана асобн. нумару — **1** руб.

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

**Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), яго агентура, акруговыя аддзяленьні і ўсе кнігарні БДВ, кіёскі контрагэнцтва друку, усе пошты і лістаносцы ў гарадох і вёсках БССР**

Друкарня БДВ. Зак. № 1143. Галоўлітбел № 1031.